11 чэрвеня 2021 | № 22 (730)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

9 772218 214005 21022

**Непераадолены досвед Вялікага Тэрору**
**стар. 10**

# Рабіце, што можаце, там, дзе вы зараз



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

Аксана КОЛБ

**Больш за трыста дзён пратэстаў. Гучных і яскравых ды ціхіх і крэатыўных. Мы і падумаць не маглі, што так шмат зможам трываць. За гэты час столькі адбылося, што хапіла б на дзясятак гадоў. За гэты час мы так пасталелі, што ў іншых умовах не хапіла б і жыцця. Больш за трыста дзён мы фарміраваліся як нацыя, мы развіваліся як грамада, мы ўмацоўваліся як асобы. Так шмат перакрочана, яшчэ больш — наперадзе.**

Здаецца, сілы ўжо на зыходзе. Здаецца, немагчыма ўжо трываць. Плача сэрца і рвецца душа ад таго, што мы чуем і бачым. Ад бяссілля абараніць сябе, сваіх родных, сяброў, тое, што даражэйшае за грошы і выгоды. Здаецца, Зло зжырае Дабро дробнымі кавалкамі, і ўнутры нас амаль усё выпалена.

Але гэта не так, гэта толькі ілюзія паразы, якую прыхавана ці ўяўна стварае прапаганда. Гэта тое, чаго хочацца тым, хто сёння хаваецца за несапраўднымі імёнамі ці сапраўднымі пасадамі. Гэта іх мара, і нават не мэта. Іх трызненні. Бо на самай справе Зло ніколі ў гісторыі свету не перамагала. Ніколі! Не верыце? Пагартайце падручнікі гісторыі.

Часам хочацца плакаць, часам — крыкам крычаць, нават выць па-звярынаму? Звярніцеся да падзей мінуўшчыны. Хоць далёкай, хоць блізкай.

«На папярэднім следстве я казаў, што я не шпіён, я не тэрарыст, але мне не верылі і ўжылі да мяне наймацнейшыя катаванні. Я на працягу дваццаці пяці гадоў свайго партыйнага жыцця сумленна змагаўся з ворагамі і знішчаў ворагаў. У мяне ёсць і такія злачынствы, за якія мяне можна і расстраляць, і я пра іх скажу пасля, але тых злачынстваў, у якіх мяне абвінавачваюць у заключэнні па маёй справе, я не здзяйсняў і ў іх не вінаваты», — гэта апошнія словы перад расстрэлам Мікалая Яжова, кіраўніка НКУС СССР. Таго самага, які аддаваў загады на расстрэлы сотняў тысячаў ні ў чым не вінаватых сумленных людзей.

Яго расстралялі ў 1940 годзе. Расстралялі і шмат тых, хто выконваў яго загады.

«Прызнаючы, што я адказны за перагіны і вычварэнствы сацыялістычнай законнасці ў 1937–1938 гадах, прашу суд улічыць, што карыслівых і варожых мэтаў у мяне пры гэтым не было. Прычына маіх злачынстваў — абстаноўка таго часу. Прашу вас пры вынясенні мне прысуду старанна прааналізаваць мае дзеянні, не разглядаць мяне як контррэвалюцыянера, а ўжыць да мяне толькі тыя артыкулы Крымінальнага кодэкса, якія я сапраўды заслужыў», — а гэта ўжо словы Лаўрэнція Берыі, таксама перад расстрэлам у 1953 годзе.

У наступныя гады былі арыштаваныя і пакараныя многія паплечнікі Берыі, якія займалі высокія пасады ў сілавых структурах саюзных рэспублік. Усім ім, як і іх былому шэфу, было адмоўлена ў рэабілітацыі пасмяротна.

Вы спытаеце, а як жа мільёны ахвяраў катаў? Дзе ж тут параза Зла? Вы скажаце, што кошт такой перамогі Дабра быў занадта высокі? Магчыма, але хто можа гэта вызначыць?

Дзе тая мяжа ахвярнасці, якая дазволіць сказаць, што гэта занадта? Які кошт павінна заплаціць грамадства, каб стаць не проста свабодным, салідарным і з’яднаным, але яшчэ і прадбачлівым? Ці разлічыліся мы па рахунках? Ці заплацілі ўжо напоўніцу за тое, што столькі гадоў спалі і «не займаліся палітыкай»? Ці хаця б за тое, што дасюль не асудзілі злачынствы сталінізму?

Столькі пытанняў, на якія няма дакладнага і адназначнага адказу. Ці ёсць?

Столькі яшчэ спраў і крокаў, якія чакаюць нас у будучыні, у блізкай будучыні, у найлепшай будучыні.

А пакуль жа давайце ў чарговы раз збяром сябе ў купку, разгорнем плечы, узнімем галовы і зробім чарговы крок наперад.

Я не ведаю, колькі дзён нас яшчэ чакае, 10, 20 ці 100. Я не ведаю, будуць яны гучнымі і яскравымі або ціхімі і крэатыўнымі. Не ведаю, колькі з нас за гэты час з’едуць з краіны ці апынуцца па той бок кратаў. Колькі болю і стратаў наканавана перажыць. Колькі вытрымаць і не зламацца.

Але бясспрэчна тое, што з абранага шляху збочваць не лёс. Бо «мы жывы народ, мы — беларусы!». А таму — рабіце, што можаце, там, дзе вы зараз. Бо кожны ўчынак і кожны крок — гэта крок у будучыню. У лепшую будучыню нашай краіны і кожнага з нас.

Жыве найлепшая краіна ў свеце! Жыве Беларусь!

# Прысуды, выкраданне палітвязняў і блакаванне дарог

**Шэраг падзей на тыдні яшчэ больш абвастрыў адносіны з Літвой. Аднак міжнародны ціск на беларускі рэжым не спыняецца. Падрабязней — у нашым дайджэсце.**

Павел Латушка падаў заяву ў пракуратуру ў Варшаве, у якой інфармуе пракуратуру Польшчы пра пагрозы фізічнай ліквідацыі і планаваныя злачынствы з боку Лукашэнкі, Мікалая Карпянкова, Івана Церцеля, Рыгора Азаронка, Алега Гайдукевіча і іншых чыноўнікаў і супрацоўнікаў дзяржаўных СМІ.

Генпракуратура Беларусі просіць Літву аб аказанні прававой дапамогі па справе аб генацыдзе насельніцтва Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны і пасля яе. У прыватнасці, ведамства хоча дапытаць былога прэзідэнта Літвы. «Следства правярае інфармацыю аб тым, што ў штаб так званай Арміі абароны Айчыны, прысягнуўшы добраахвотна, паступіў на службу ў якасці даручэнца "Мінскага мясніка" (Імпулявічуса) Вальдэмарас Хубертас Лайміцыс Адамкавічус», — гаворыцца ў паведамленні. Сцвярджаецца, што ён змяніў імя на Валдас Адамкус і затым, вярнуўшыся ў Літву, займаў вышэйшую дзяржаўную пасаду — прэзідэнта. Валдас Адамкус нарадзіўся ў 1926 годзе. Цяпер яму 94 гады.

Трох з пяці арыштаваных актывістаў Саюза палякаў Беларусі гвалтоўна вывезлі ў Польшчу. Гэта Ірэна Бярнацкая, Марыя Цішкоўская і Ганна Панішава. Нягледзячы на тое, што яны грамадзяне Беларусі, вярнуцца ў краіну яны цяпер не могуць. 25 сакавіка Генпракуратура Беларусі распачала супраць жанчын крымінальную справу па ч.3 арт. 130 КК РБ (Узбуджэнне нацыянальнай і рэлігійнай варожасці і варожасці па прыкмеце нацыянальнай, рэлігійнай, моўнай і іншай сацыяльнай прыналежнасці, а таксама па рэабілітацыі нацызму групай асоб). Праваабаронцы прызналі іх палітвязнямі. Старшыня Саюза палякаў Анжаліка Борыс і журналіст Андрэй Пачобут, затрыманыя ў рамках гэтай жа справы, застаюцца за кратамі.

Суд Кастрычніцкага раёна Гродна вынес выракі ў справе аб штурханіне на пікеце ў Гродна, што адбылася год таму і скончылася затрыманнем Сяргея Ціханоўскага. Суддзя Вольга Бекушава пастанавіла пакараць Змітра Фурманава — 2 гадамі калоніі агульнага рэжыму, Яўгена Разнічэнку — 3,5 гадамі калоніі агульнага рэжыму, Уладзіміра Кнігу — 4 гадамі калоніі строгага рэжыму.

МУС вызначыла нормы забеспячэння зброяй і боепрыпасамі, якія будуць выдаваць работнікам прадпрыемстваў з «асаблівымі статутнымі задачамі». Цяпер пісталет ці рэвальвер змогуць мець пры сабе супрацоўнікі «Белпошты» — начальнікі вузлоў сувязі, участкаў, аддзяленняў сувязі, галоўнай касы, а таксама аператары сувязі, паштары і кіроўцы. Аператарам сувязі ў дадатак да пісталета ці рэвальвера выдадуць яшчэ і аўтаматы.

Днём 3 чэрвеня невядомыя спрабавалі патрапіць у кватэру журналісткі Валярыны Куставай. Пазней стала вядома, што гэта сілавікі, яны ўсё ж узламалі дзверы ў кватэру і правялі там вобшук. Самой Валярыны ў кватэры не было.

Тэлеканал АНТ паказаў «інтэрв'ю» з затрыманым Раманам Пратасевічам, у якім той «усхваляў» Лукашэнку і «здаваў» дзеячаў апазіцыі. Аднак шмат хто з беларусаў лічыць, што ў СІЗА КДБ Рамана катавалі, не выключаюць і выкарыстання псіхатропаў. «Amnesty International» назвала прымус Рамана Пратасевіча да «прызнання» ў эфіры тэлебачання раўназначным жорсткаму абыходжанню.

4 чэрвеня абвясцілі прысуд чатыром адміністратарам тэлеграм-канала і чата «Кіроўцы 97». Слуханні па справе праходзілі ў закрытым рэжыме. Падчас спрэчак пракурор запрасіў пакараць палітвязняў Дзяніса Гуціна, Вікторыю Кульша і Ганну Вішняк, якія сваёй віны не прызналі, 2,6 года пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму, Тацціяну Шкробат, якая супрацоўнічала са следствам і прызнала віну, — 3 гадамі «хатняй хіміі». Менавіта такі прысуд і вынесла суддзя Жанна Хвайніцкая.

Беларускія актывісты спынілі галадоўку ля прадстаўніцтва Еўракамісіі ў Варшаве. За 10 дзён галадоўкі было сабрана больш за 4 тысячы подпісаў у падтрымку ўвядзення санкцый супраць Беларусі, яны былі перададзеныя прадстаўніку Еўракамісіі Філіпу Скавіньскаму.

На беларускай мяжы затрымалі аўто з Літвы з дыппоштай. МЗС Літвы выказала рашучы пратэст і назвала гэта сур'ёзным парушэннем Венскай канвенцыі аб дыпламатычных зносінах. Прадстаўнік беларускай амбасады быў тэрмінова выкліканы ў МЗС, яму ўручылі ноту пратэсту. Згодна з Венскай канвенцыяй, дыппошта не можа быць адкрытая або затрыманая, а дыпкур'еру пры выкананні абавязкаў прадстаўляецца ахова боку, які прымае. Кур'ер карыстаецца недатыкальнасцю і не можа быць затрыманы або арыштаваны.

Праваабаронцу і аднаго з лідараў леташніх пратэстаў у Магілёве Валадара Цурпанава, прызнанага палітвязнем, адправілі ў калонію агульнага рэжыму на 2 гады за ўхіленне ад адбывання пакарання ў папраўчай установе адкрытага тыпу (арт. 415 КК). Падставай для крымінальнага пераследу асуджанага на тры гады «хіміі» актывіста сталі дысцыплінарныя спагнанні за парушэнне ўнутранага распарадку. Валадар Цурпанаў будзе абскарджваць прысуд.

Экс-міліцыянта Дзмітрыя Кулакоўскага абвінавацілі ў публічнай абразе службовай асобы ў сувязі з выкананнем ёю службовых абавязкаў і прызначылі два гады «хіміі» па артыкуле 369 Крымінальнага кодэкса. 20 траўня былога міліцыянта затрымалі па адміністрацыйнай справе нібыта за непадпарадкаванне па арт. 24.3 КаАП і арыштавалі на 15 сутак. У апошні дзень 15-сутачнага арышту, 4 чэрвеня, Дзмітрыя Кулакоўскага этапавалі ў папраўчую ўстанову №7.

Мінздароўя прапанавала ўраду адмяніць забарону на выезд з Беларусі грамадзян краіны наземным транспартам. Таксама з высокай ступенню верагоднасці яшчэ да канца чэрвеня Беларусь адменіць патрабаванне аб 10-дзённай самаізаляцыі замежнікаў, калі чалавек вакцынаваны ад каронавіруса.

З 5 чэрвеня па ініцыятыве Народнага антыкрызіснага ўпраўлення ў Польшчы і Літве праходзяць намётавыя мітынгі на межах з Беларуссю. Дэманстранты патрабуюць ад Еўрасаюза паскорыць увядзенне маштабных санкцый супраць рэжыму Лукашэнкі, а ад беларускай улады — вярнуць грамадзянам магчымасць наземнага выезду з краіны, вызваліць палітвязняў і правесці новыя, сумленныя выбары. 8 чэрвеня ўдзельнікі намётавых мітынгаў пачалі блакаваць дарогі для грузавога транспарту ў адпаведных прапускных пунктах.

# Шаноўныя чытачы!

**З 1 ліпеня 2021 года, па незалежных ад нас прычынах, спыняецца наша супрацоўніцтва з РУП «Белпошта».**

**Але гэта не значыць, што вы не зможаце атрымліваць «Новы Час» у свае паштовыя скрыні. Як і шмат гадоў таму, МЫ АРГАНІЗУЕМ УЛАСНУЮ СІСТЭМУ РАСПАЎСЮДУ. ТАМУ ВЫ І ДАЛЕЙ ЗМОЖАЦЕ НАС ЧЫТАЦЬ.**

**ШТО ДЛЯ ГЭТАГА ТРЭБА?**

**ЛЮБЫМ ЗРУЧНЫМ ДЛЯ ВАС СПОСАБАМ ПАВЕДАМІЦЬ НАМ АДРАС ДАСТАЎКІ ГАЗЕТЫ. ГЭТА МОЖНА ЗРАБІЦЬ ПА РЭДАКЦЫЙНЫХ ТЭЛЕФОНАХ, ПА РЭДАКЦЫЙНАЙ ЭЛЕКТРОННАЙ ПОШЦЕ, ПРАЗ САЦЫЯЛЬНЫЯ СЕТКІ І МЕСЕНДЖАРЫ ЦІ НАВАТ ЗВЫЧАЙНЫМ ЛІСТОМ.**

**АПЛАЦІЦЬ КОШТ ПАДПІСКІ — 5 РУБЛЁЎ ЗА МЕСЯЦ, — ПЕРАЛІЧЫЎШЫ ГРОШЫ НА НАШ РАХУНАК: Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў» № BY48BLBB30120190790926 001001 Дырэкцыя ААА «Белінвестбанк» па Мінску і Мінскай вобл., BLBBBY2X, УНП 190790926.**

**Мы зараз працуем над тым, каб зрабіць аплату больш зручнай, але гэта будзе крыху пазней.**

**Штотыдзень зазіраць у вашу паштовую скрыню, каб забраць свежы нумар «Новага Часу».**

**На «Белпошце» запэўнілі, што ўсім тым, хто ўжо аформіў падпіску на 2-е паўгоддзе, вернуць грошы. Таму звяртайцеся ў свае паштовыя аддзяленні.**

**Таксама нагадваем, што ўсе чэрвеньскія нумары прыйдуць вам па падпісцы. Рэдакцыйная падпіска пачне дзейнічаць з ліпеня.**

**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ВАШУ ПАДТРЫМКУ!**

# Пакуль навуковец Анатоль Літвіновіч сядзеў на «сутках», яму пабілі шыбу ў кватэры

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**У нядзелю, 6 чэрвеня, навуковец-этнограф Анатоль Літвіновіч выйшаў з Акрэсціна пасля 10 дзён адміністрацыйнага арышту. Напярэдадні ў яго кватэры невядомыя пабілі шыбу.**



Міліцыянты прыйшлі да Анатоля Літвіновіча 27 траўня. Яго, разам з двума малымі дзецьмі, забралі ў Фрунзенскае РУУС за бчб-сэрцайкі, якія віселі на акне са жніўня.

У выніку 69-гадовага мужчыну пакаралі 10 суткамі адміністрацыйнага арышту. Тэрмін зняволення скончыўся а 10 раніцы ў нядзелю, 6 чэрвеня.

— Перадачу яму ў чацвер не перадалі, а аддалі толькі на вахце, калі выходзіў. Яна была няпоўная: забралі цыгарэты (муж не паліць, але я перадавала) і цёплую байку з капюшонам, — распавяла «Новаму Часу» жонка навукоўца Вольга Літвіновіч.

Паводле яе слоў, падчас арышту мужу давялося спаць на падлозе: не было ні матрасу, ні падушкі, ні коўдры. У камеры людзей было больш, чым месцаў. Увесь час гарэла святло, апроч таго вязні не маглі нармальна спаць, бо іх падымалі тройчы за ноч: у 2, 4 і 6 гадзін, ладзілі пературсы. На прагулкі зняволеных не вадзілі, а ў якасці пакарання паграджалі зачыніць фортку.

Анатолю Літвіновічу ў лістападзе споўніцца 70 гадоў, ён збіраўся ладзіць юбілейную выставу ў Нацыянальнай бібліятэцы, але цяпер не ведае, ці дазволяць яму яе правесці. Таксама навуковец не ведае, што чакае яго на працы, 14 чэрвеня ён вяртаецца з адпачынку.

Але гэта не ўсе непрыемнасці, якія абрынуліся на сям'ю навукоўца. Увечары 5 чэрвеня дзеці заўважылі, што нехта пабіў шыбу ў іх кватэры. Сям'я ад гэтага прыйшла ў роспач: у Літвіновічаў шасцёра непаўналетніх дзяцей, і падчас затрымання Анатоля Фёдаравіча міліцыянты пагражалі камісіяй па справах непаўналетніх за беспарадак у кватэры. Таму звяртацца ў міліцыю, лічаць Літвіновічы, марная справа — наўрад ці вінаватых знойдуць.

— Пакуль да жніўня не будзем мяняць шыбу — раптам яшчэ паб'юць? — перажывае Вольга Літвіновіч.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Трывога па ўсіх франтах

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Мы ўжо сто разоў пісалі, што асноўная хіба нашай улады — адарванасць ад жыцця і існаванне ў нейкім свеце адзінарогаў і ружовых сланоў. На мінулым тыдні мы атрымалі чарговае таму пацверджанне.**




Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

Калі ЕС уводзіў санкцыі супраць прадпрыемстваў Беларусі, асноўны аргумент нашай улады быў у тым, што «вы таксама ад іх пацерпіце, бо на нашых прадпрыемствах за мяжой працуюць вашы людзі». Еўрапейцаў гэта не спыніла. Цяпер набылі моц санкцыі ЗША. І прэм'ер-міністр Беларусі Раман Галоўчанка заявіў, што ў Беларусі гатовы комплекс мер у адказ на заходнія санкцыі.

«Мы ўсё ж такі спадзяемся на тое, што разгарачаныя галовы астудзяцца і ўзважаць у тым ліку інтарэсы свайго бізнесу ў Беларусі. Бо калі наносяць шкоду нашым кампаніям, нашым прадпрыемствам, ці ж мы не маем права прычыніць шкоду заходнім кампаніям? Гэта мы адказваем. Нас вымушаюць», — заявіў Галоўчанка. І нагадаў, што ў Беларусі працуе вялікая колькасць замежных прадпрыемстваў, падкрэсліўшы пры гэтым, што многія з іх належаць краінам, якія займаюць «асабліва недружалюбную палітыку» ў дачыненні да ўладаў Беларусі. У прыватнасці, ён назваў Польшчу, Літву, Латвію, Украіну і заклікаў палітыкаў падумаць пра лёсы сваіх бізнесаў.

Канешне, можна доўга разважаць пра эфектыўнасць «контрсанкцый» і пра тое, наколькі балюча яны ўдараць па тых, для каго прызначаныя. Але лепей узгадаць моднае цяпер слова «рэлакацыя». Таму што амаль на наступны дзень пасля словаў Галоўчанкі ў СМІ з'явілася навіна, што з Беларусі можа сысці Stadler. І нават з канкрэтыкай — сусветны прамысловы гігант рыхтуецца перанесці вытворчае падраздзяленне ва Украіну.

Што такое Stadler для Беларусі? Па-першае, гэта ці не адзінае новае буйное прамысловае прадпрыемства, якое створана «з нуля» пры Лукашэнку — за ўсе 26 гадоў яго кіравання. За гэтыя чвэрць стагоддзя багата прадпрыемстваў было знішчана, а колькі збудавана? Прынамсі, апроч Stadler, на розум нічога не прыходзіць. Такі вынік працы «крэпкіх хазяйственнікаў».

Па-другое, цяпер беларуская «дачка» Stadler дасягнула 20% сусветнага аб'ёму выпуску гэтай міжнароднай карпарацыі — гэта другі па маштабе завод швейцарскай групы. А цяпер уявіце, колькі гэтае прадпрыемства плаціць падаткаў у бюджэт.

Па-трэцяе, на заводзе ў Фаніпалі цяпер працуе 1500 чалавек. Агульны аб'ём швейцарскіх інвестыцый у беларускі праект дасягнуў 100 мільёнаў еўра.

Варта адзначыць, што ў Stadler наконт гэтых чутак заявілі: «Перанос беларускага прадпрыемства не плануецца». Падавалася б, можна ўздыхнуць з палёгкай, але… Ці «планавалася» ў нас рэлакацыя айцішнікаў і бізнесоўцаў? Не, гэта стала рэакцыяй на дзеянні ўладаў. І калі санкцыі прыціснуць Stadler і звонку, і знутры, пераезд завода ва Украіну можа адбыцца, так бы мовіць, пазапланава. А ў нас дадасца 1500 беспрацоўных.

Пры гэтым высокакваліфікаваныя працоўныя Stadler наўрад ці пойдуць працаваць на нейкі дзяржаўны вагонарамонтны завод.

Праца на дзяржаву ўвогуле стала вельмі таксічнай. Пра гэта сведчаць, напрыклад, вакансіі на дзяржаўным тэлебачанні. На сайце Дзяржаўнай службы занятасці па стане на 6 чэрвеня размешчана 160 вакансій ад «Белтэлерадыёкампаніі»: ад аператара капіявальных машын і інжынера тэлевізійнага абсталявання да старшыні і галоўнага рэдактара. Пры гэтым заробак для старшыні — ад 800 рублёў, для дырэктара або намесніка — ад 750 рублёў. Прычым, у студзені БТ мела 103 вакансіі — цяпер жа іх у паўтара разы больш.

Тая ж сітуацыя ў іншых прапагандыстаў. Выдавецкі дом «Беларусь сёння» мае 20 вакансій. Гэта пры тым, што на дзяржаўныя СМІ ў гэтым годзе ў бюджэце закладзена 156 мільёнаў рублёў — 60 мільёнаў долараў па сённяшнім курсе. І гэта больш, чым агулам на культуру.

Відавочна, што нават такі «лёгкі хлеб» не прываблівае працоўных на БТ у прыватнасці і ў сферу прапаганды ў цэлым. Людзі разумеюць: трапіш туды — потым не адмыешся ні за якія грошы.

У чарговы раз «пацярпела скрышальную перамогу» і беларуская дыпламатыя. Славенія афіцыйна адклікала сваю згоду на працу беларускага Ганаровага консульства ў Любляне пад кіраўніцтвам Янеза Шкрабца. Шкрабец быў ганаровым консулам Беларусі ў Славеніі з 2014 года. Яго кампанія Riko падпісала больш за 40 кантрактаў з найбуйнейшымі беларускімі дзяржпрадпрыемствамі на агульную суму больш за 310 мільёнаў еўра. Пры гэтым ганаровы консул ні разу не выступіў з асуджэннем парушэнняў правоў беларусаў, хаця ад яго патрабавалі пазначыць сваю пазіцыю.

Мажліва, Шкрабец думаў, як і многія: «Бізнес ёсць бізнес, грошы не пахнуць, я па-за палітыкай». А вось па-за палітыкай застацца не ўдалося.

Італьянскае выданне Corriere della Sera паведаміла, што Італія не дае агрэман на прызначэнне паслом цяперашняга прэс-сакратара МЗС РБ Анатоля Глаза. Узначаліць дыппрадстаўніцтва Беларусі ў Італіі прэс-сакратар беларускага МЗС Глаз можа толькі пасля ўхвалення прэзідэнтам краіны Серджыа Матарэла. Аднак у Рыме не спяшаюцца падпісаць адпаведны дазвол.

Ну і, канешне, чарговая «элегантная перамога», пра якую адмыслоўцы казалі ад таго моманту, калі пачалі будаваць Беларускую АЭС. Аднак улады толькі цяпер уцямілі, што наяўныя ў Беларусі электрасеткі маюць недастатковую прапускную здольнасць для таго, каб выкарыстоўваць электраэнергію БелАЭС на ацяпленне і побытавыя патрэбы. А для выпраўлення гэтай хібы патрабуецца будаўніцтва альбо рэканструкцыя каля 2,7 тысячы кіламетраў электрасетак на год коштам прыкладна 1,5 мільярда рублёў.

Вось чаму б не было пра гэта падумаць, калі будавалі АЭС, а не цяпер, калі яе амаль запусцілі? Атрымліваецца, што станцыя будзе працаваць «ухаластую»?

І яшчэ бяда прыйшла, адкуль не чакалі. Згодна з паведамленнем агенцтва Argus, якое спецыялізуецца на навінах энергетычнага рынку, Расія да канца 2021 года збіраецца ў некалькі разоў скараціць транзіт газу праз Беларусь. Гаворка ідзе пра скарачэнне «ў некалькі разоў». Звязана гэта з запускам «Паўночнага патоку–2».

Было ж зразумела, што некалі яго ўсё ж дабудуюць, праўда?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Паліна Шарэнда-Панасюк



**Працэс над брэсцкай дэмакратычнай актывісткай доўжыўся ўсяго тры дні. Яна магла атрымаць шэсць гадоў калоніі, пракурор запытаў толькі два.**

Працэс пачаўся 7 чэрвеня ў судзе Маскоўскага раёна Брэста. На Паліну Шарэнда-Панасюк завялі аж тры крымінальныя справы: паводле арт. 364 КК («Гвалт альбо пагроза выкарыстання гвалту ў дачыненні супрацоўніка органаў унутраных спраў»), арт. 368 («Абраза прэзідэнта») і арт. 369 («Абраза прадстаўніка ўлады»). Пацярпелымі па справе праходзілі 7 міліцыянтаў.

Шарэнда-Панасюк вельмі рэзка выступіла ў судзе. Яна заявіла, што з 3 студзеня «захопленая ў палон», і не столькі адказвала на пытанні, колькі абуралася тым, што адбываецца, і сітуацыяй у краіне. «Я вас не лічу судом. Палітычныя рэпрэсіі нічога агульнага з судом не маюць, — неаднаразова паўтарыла яна. — Сталінская тройка, палявая жандармерыя, але вы — не суд».

У моманты, калі да яе персанальна не звярталіся, Паліна паказальна чытала нейкую кніжку. На пытанне, ці прызнае яна віну, Шарэнда-Панасюк адказала: «Гэта не абвінавачванне, гэта палітычна матываваны праслед. Гэта крымінальная справа, у якой пасля вас абвінавацяць. Вы ўдзельнічаеце ў палітычных рэпрэсіях. Даць адпор бандыту — гонар і абавязак грамадзяніна. Я не абвінавачаная, я палітзняволеная».

Суд прысудзіў Шарэнда-Панасюк два гады калоніі.

## Марыя Калеснікава



**Абарона Марыі Калеснікавай падала скаргу ў СК на пастанову аб прыцягненні яе ў якасці абвінавачанай.**

Адвакаты, як і ў выпадку Віктара Бабарыкі і Максіма Знака, паказваюць, што абвінавачанне не канкрэтнае, не змяшчае неабходных, прадугледжаных законам, звестак, што не дазваляе Марыі ажыццяўляць сваю абарону. Агулам гэта азначае, што абвінавачанні ёй незразумелыя.

Марыю Калеснікаву, кіраўніцу передвыбарчага штабу Віктара Бабарыкі, схапілі 7 верасня 2020 года ў цэнтры Мінска. На наступны дзень стала вядома, што яе і двух прадстаўнікоў Каардынацыйнай рады, Антона Раднянкова і Івана Краўцова, гвалтоўна вывезлі ва Украіну. Аднак Калеснікаву выправадзіць з Беларусі не ўдалося — на мяжы яна парвала свой пашпарт. Тады ёй выставілі абвінавачанне «ў закліках да дзеянняў, скіраваных на прычыненне шкоды нацыянальнай бяспецы Рэспублікі Беларусь, учыненых з выкарыстаннем СМІ і сеткі інтэрнэт».

У канцы снежня Генеральная пракуратура завяла супраць Калеснікавай і іншых чальцоў Каардынацыйнай рады крымінальныя справы «па фактах стварэння экстрэмісцкага фарміравання і кіравання ім з мэтай захопу дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам».

У лютым Калеснікаву і аднаго з яе адвакатаў Максіма Знака абвінавацілі ў «змове з мэтай захопу дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам» (ч. 1 арт. 357) і ў «стварэнні экстрэмісцкага фарміравання і кіраванні ім» (ч. 1 арт. 361-1).

## Сцяпан Латыпаў



**Суд над абаронцам мурала на «Плошчы Перамен» Сцяпанам Латыпавым павінен аднавіцца 10 чэрвеня. Нягледзячы на стан здароўя зняволенага.**

Нагадаем, падчас судовага пасяджэння 1 чэрвеня Сцяпан Латыпаў парэзаў сабе горла. Палітвязень перад гэтым заявіў, што яму пагражалі ў выпадку непрызнання віны завесці крымінальныя справы на яго блізкіх і родзічаў. Ён сказаў: «ГУБАЗіК паабяцаў, што, калі я не прызнаю віны, — распачнуць крымінальныя справы супраць маіх родных і суседзяў».

Сцяпан Латыпаў — арбарыст і дырэктар кампаніі «Беларба», жыхар дома каля «Плошчы Пераменаў». Быў затрыманы 15 верасня ў двары свайго дома падчас таго, як невядомыя пад наглядам міліцыі спрабавалі зафарбаваць мурал з дыджэямі. Тады ж у кватэры Сцяпана Латыпава прайшоўператрус.

Неўзабаве пасля затрымання ў выпуску навін на тэлеканале «Беларусь-1» сцвярджалася са спасылкай на МУС, што мужчына збіраўся выкарыстаць супраць сілавікоў атруту. Аднак у канчатковым паведамленні СК аб завяршэнні расследавання справы гэтая версія адсутнічае.


Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

# Геапалітычныя арэлі
# Ці атрымаецца зноў?

Сяргей ПУЛЬША

**Беларускі рэжым, падаецца, зноў спрабуе распачаць гульню ў «геапалітычныя арэлі». З аднаго боку, невядома чым, але афіцыйны Мінск усё ж раздражніў Крэмль, ды так, што зазвычай стрыманы прэс-сакратар Пуціна вымушаны быў запатрабаваць тлумачэнняў. З іншага: дасылаецца пакуль што вельмі слабы, ледзь чутны, але сігнал на «нармалізацыю» Захаду.**

## Дзіўная рэакцыя

Масква ў інтэрв'ю Пратасевіча знайшла тое, на што не звярнулі ўвагу беларускія каментатары. Прычым, знайшла адразу пасля таго, як на Пецярбургскім бізнес-форуме Пуцін неадназначна выказваўся пра Лукашэнку. Кажучы пра прымусовую пасадку самалёта Ryanair, Пуцін заўважыў: «Нас гэта не тычыцца. Ісціна дзесьці пасярэдзіне. Усё роўна, як бы ні было, што нейкі рэжым нешта душыць, змены ў грамадстве будуць адбывацца ў сувязі з аб'ектыўнымі прычынамі».

Большасць аналітыкаў лічаць гэтыя словы «дыстанцыяваннем» Пуціна ад Лукашэнкі напярэдадні сустрэчы з прэзідэнтам ЗША Джо Байдэнам. Але амаль адначасова са словамі Пуціна зняты з таго самага рэйса Раман Пратасевіч у нашумелым інтэрв'ю АНТ распавёў пра расійскага алігарха, «прамога канкурэнта Гуцырыева», які, нібыта, спансаваў беларускую апазіцыю. Расійскія СМІ выказалі здагадку, што гэта мог быць кіраўнік канцэрну «Уралхім» Дзмітрый Мазепін.

Мазепін публічна і радыкальна аспрэчыў словы Пратасевіча. «Я магу адказаць прама і сумленна, ні я і ні мае кампаніі ніколі не фінансавалі вышэйзгаданы тэлеграм-канал, — сказаў Мазепін журналістам. — Мне непрыемна гаварыць пра фінансаванне гэтага тэлеграм-канала, таму што гэта супярэчыць маім поглядам».

**Верагодна, укід у інфармацыйную прастору размоў пра «памілаванне» — гэта сігнал Захаду, што ўлады гатовыя да «гандлю». І, улічваючы дзіўныя словы Пратасевіча, якія выклікалі абвастрэнне з Расіяй, можа быць, да чарговага «развароту на Захад»**

А пасля афіцыйны прадстаўнік Крамля Дзмітрый Пяскоў заявіў, што альбо сам Пратасевіч, альбо афіцыйны Мінск павінны патлумачыць заяву аб фінансаванні «бізнесменам з РФ» беларускай апазіцыі.

І гэта дзіўна: падавалася б, шараговая фраза, якая ў чарговы раз павінна давесці, што беларускі пратэст выкліканы «замежнымі лялькаводамі», стала падставай для даволі моцнага адлупу з боку Крамля. Бо ў мінулым той самы Крэмль прапускаў міма вушэй нават шалёную антырасійскую рыторыку, на якой грунтавалася ўся перадвыбарчая кампанія Лукашэнкі 2020 года. Тады таксама было багата заяваў пра тое, што на Сінявокую развілі раты расійскія алігархі. Напрыклад, у той час яшчэ кіраўнік КДК Іван Церцель абвінавачваў «лялькаводаў з Расіі» (а менавіта — «вялікіх кіраўнікоў у "Газпроме", а можа быць, і вышэй») у фінансаванні прэзідэнцкай кампаніі Бабарыкі. А тут адна фраза Пратсевіча — і панеслася.

Палітолаг Аляксандр Класкоўскі лічыць важным у гэтым моманце само інтэрв'ю Пратасевіча. Па яго словах, усе эксперты сходзяцца ў тым, што заявы Пратасевіча рабіліся пад ціскам, і адказы яму дыктаваў нейкі суфлёр. «Калі сыходзіць з таго, што гэта (словы пра расійскага алігарха. — Рэд.) не проста экспромт Пратасевіча, — а такое можа быць, — то Крамлю гэты месідж беларускага боку не падабаецца. Падтэкст можа быць такі: вы там, у Крамлі, не сочыце за тым, што ў вас пад носам нейкія таўстасумы плятуць інтрыгі супраць вашага апошняга хаўрусніка. То-бок, гэта выпад не толькі на адрас Мазепіна, але і каменьчык у агарод Крамля. Менавіта гэтым можна патлумачыць даволі строгі тон Пяскова, які звычайна ў такіх выпадках фармулюе ўсё абцякальна і дыпламатычна, каб нікога не зачапіць. А тут усё ж даволі строга прагучала», — адзначае палітолаг.

Паводле Класкоўскага, рэакцыя Пяскова — сведчанне незадаволенасці Крамля, што беларускі хаўруснік, які знаходзіцца ў цяжкім стане і просіць дапамогі, разам з тым дазваляе сабе і «пакусваць».

## Верагодная амністыя?

У той жа час дзіўныя рэчы расказваюць родзічы палітвязняў. Па не пацверджаных афіцыйна звестках, у калоніі «Віцьба-3» палітвязняў прасілі напісаць прашэнне аб памілаванні на імя Лукашэнкі. Для гэтага, нібыта, напрыканцы траўня ў калонію прыязджаў нейкі пракурор і прасіў падпісаць прашэнне да 3 ліпеня. Большасць палітвязняў, кажуць, адмовіліся, але некаторыя пагадзіліся.

Чаму да 3 ліпеня? Зазвычай, да Дня Перамогі альбо Дня вызвалення Беларусі ад фашыстаў (якраз 3 ліпеня) рыхтавалася амністыя. Прашэнне аб памілаванні дае, па ідэі, магчымасць не толькі быць памілаваным, але і атрымаць права на амністыю — калі не цалкам на выхад з турмы, то хаця б на частковае скасаванне тэрміну зняволення.

Праўда, сёлета амністыя, нібыта, не прадугледжвалася. Але...

І амністыя, і памілаванне, як правіла, не выключаюць пэўных умоў. Па-першае, каб падпасці пад гэтыя рэчы, трэба як мінімум прызнаць сваю віну, напісаць, што ты «раскайваешся ў здзейсненым злачынстве», мець узорныя паводзіны. Па-другое, ані памілаванне, ані амністыя судзімасці не пагашаюць. Па-трэцяе, з-за таго, што амністыя альбо памілаванне судзімасці не пагашаюць, іх можна лёгка «адкаціць назад»: то-бок, вызвалены павінен стаць на ўлік міліцыі па месцы жыхарства, не дапускаць адміністрацыйных парушэнняў, хадзіць на прафілактычныя гутаркі і гэтак далей. Інакш — амністыя здымаецца, і ён зноў едзе за краты.

Але пасля такіх навінаў узнікае адчуванне «дэжа вю». Менавіта на падставе памілавання вызвалілі з турмаў большасць асуджаных за «Плошчу–2010»: напрыклад, Андрэя Саннікава, які напісаў прашэнне аб памілаванні. Прэс-сакратар Саннікава Аляксандр Атрошчанкаў такога прашэння не пісаў — але ўсё роўна ўказам Лукашэнкі быў памілаваны. Таксама па памілаванні выйшаў і Мікалай Статкевіч — хаця толькі ў 2015-м, але па памілаванні. І менавіта непагашаная судзімасць пазбавіла Статкевіча права асабіста ўдзельнічаць у выбарах–2020 у якасці кандыдата ў прэзідэнты.

Тым не менш, нават такое «вызваленне» палітвязняў прывяло да «памякчэння» адносінаў Беларусі з ЕС, а ў 2016-м санкцыі былі знятыя амаль поўнасцю. Нягледзячы на тое, што ўмовай іх адмены было не толькі «неадкладнае і безумоўнае» вызваленне палітвязняў, а яшчэ і шэраг пунктаў — ад свабодных выбараў да свабоды СМІ.

Верагодна, укід у інфармацыйную прастору размоў пра «памілаванне» — гэта сігнал Захаду, што ўлады гатовыя да «гандлю». І, улічваючы дзіўныя словы Пратасевіча, якія выклікалі абвастрэнне з Расіяй, можа быць, да чарговага «развароту на Захад». Праўда, у мінулым прарыву міжнароднай ізаляцыі паспрыяла вайна ва Украіне і перамоўная пляцоўка па гэтым пытанні ў Мінску. Сёння такога фактару няма, а рэжым стаў больш таксічны, чым у той час.

Аляксандр Класкоўскі падкрэслівае — звесткі пра просьбы напісаць прашэнні на памілаванне пакуль не пацверджаныя. Але, калі такія факты ўсё ж мелі месца — гэта сапраўды сімптом, што беларускія ўлады шукаюць магчымасці разгрэсці тыя завалы, якія яны нарабілі ва ўнутранай і знешняй палітыцы. «Але, у адрозненне ад тых часоў, цяпер сітуацыя значна цяжэйшая для абодвух бакоў: і для беларускіх уладаў, і для Захаду. Раней не было такога, каб па выніках выбараў Брусель і Вашынгтон абвясцілі Лукашэнку нелегітымным. Беларускі бок пакуль ідзе на эскалацыю канфлікту — ад нашумелай пасадкі самалёта Ryanair да рэзкіх крокаў на польскім кірунку і высылкі латвійскага пасольства аж цалкам. Шэраг палітзняволеных з гучнымі імёнамі — Бабарыка, Ціханоўскі, Статкевіч і гэтак далей — яшчэ не асуджаныя, і цяпер не тая фаза, каб абвяшчаць амністыю. Іх жа не могуць выпусціць да выраку суда», — кажа Класкоўскі.

І яшчэ — цяпер занадта вялікі градус незадаволенасці ў грамадстве, і ўлада гэта адчувае. «Такое ўражанне, што беларуская ўлада баіцца саскочыць з гэтага шалёнага каня рэпрэсій. Можа, там і думаюць, што час спыніцца, але, з іншага боку, баяцца: як толькі яны спыняць рэпрэсіі, пачнуць падаваць сігналы, што хочуць пэўнай разрадкі, то гэта натхніць іх праціўнікаў. І можа пайсці новая хваля пратэстаў, такая, што яе не стрымаеш», — адзначае палітолаг.

## Місія невыканальная?

Магчыма, улада зноў хацела б сесці на звыклыя «геапалітычныя арэлі»: прадаваць Захаду «дэмакратызацыю і лібералізацыю», а Расіі — «адыход ад Захаду». Лукашэнка ў аналагічных умовах неаднаразова гойдаўся на гэтых «арэлях». Ці спрацуе гэта цяпер?

Па меркаванні Класкоўскага, цяпер гэта амаль што немагчыма, хаця беларускае кіраўніцтва будзе спрабаваць гэта зрабіць. «Сапраўднай дэмакратызацыі чакаць, канешне, не выпадае, але такі выпрабаваны прыём, як гандаль палітвязнямі, можа зноў быць запатрабаваны. Тут варта сачыць за развіццём падзей. З аднаго боку, Захаду на такі гандаль ісці не камільфо, аднак рэжым разлічвае, што там, на Захадзе, — «гнілыя гуманісты», ім жа шкада людзей, з якіх тут здзекуюцца. На гэтых струнах Мінск паспрабуе згуляць», — лічыць Класкоўскі.

# «Мама вельмі любіць сваю краіну, а дзяржава, падобна, не вельмі любіць маму»




**TUT.BY распавядае пра Марыну Золатаву — жанчыну, якая за 16 гадоў зрабіла з навінавага агрэгатара пры паштовым сэрвісе найбуйнейшае незалежнае медыя Беларусі, сабрала найлепшую каманду, у якой заўсёды была «сваёй», была кіраўніком — і заўсёды знаходзіла час для сям'і, абагаўляла сваіх дзяцей, мужа, спорт і здаровы актыўны адпачынак.**

Марыне Золатавай 43 гады. На TUT.BY яна прыйшла ў 2004-м. Спачатку была адзіным рэдактарам кантэнту на фактычна паштовым рэсурсе, потым стала галоўным рэдактарам партала — і застаецца ім да гэтага часу.

Марына нарадзілася ў Мінску ў 1977 годзе. Скончыла філфак БДУ, затым — аспірантуру Інстытута мовазнаўства Нацыянальнай акадэміі навук. Свабодна гаворыць на англійскай, польскай, балгарскай мовах. Любіць Беларусь і беларусаў. Замужам. Выхоўвае дачку Надзею (17 гадоў) і сына Фёдара (15 гадоў). Затрыманая па справе аб нявыплаце падаткаў у TUT.BY 18 траўня 2021 года (у той жа дзень сайт найбуйнейшага незалежнага медыя краіны быў заблакаваны). Сядзіць у СІЗА на Валадарскага. Ёй, магчыма, пагражае да 7 гадоў калоніі.

### «Мая мама вельмі любіць сваю краіну»

Пакуль Марына ў СІЗА, яе дачка Надзея здае выпускныя экзамены: ужо атрымала па 9 балаў за гісторыю Беларусі і матэматыку. Рыхтуецца здаваць ЦТ і паступаць у Акадэмію мастацтваў — «так, як быццам нічога не здарылася, бо менавіта пра гэта заўсёды прасіла мама».

— Лісты ад яе даходзяць рэдка, а бабуля, напрыклад, ад мамы наогул лістоў не атрымлівае — хоць тая ёй дакладна піша. Ва ўсіх лістах мама кажа: «Дзейнічайце так, як мы планавалі, — як быццам нічога не здарылася!»: здаецца, яе хвалююць толькі мой апошні званок і выпускны, ЦТ, паступленне, лагер Федзі...

Надзя не хавае: у сям'і разумелі, што за мамай «могуць прыйсці». Дый перажывалі ўжо ўсё гэта ў 2018-м, падчас «справы БЕЛТА».

— Мы абмяркоўвалі ўсё гэта неяк аднойчы вельмі будзённа, проста за вячэрай. Мама прасіла: маўляў, калі такое здарыцца, каб мы працягвалі вучыцца. Але нягледзячы на тое, што цяпер увесь час за кімсьці прыходзяць, ты ўсё роўна ўспрымаеш усё гэта як паралельную рэальнасць, а ў тваім «нармальным» свеце з мамай нічога не можа здарыцца. Таму што гэта трызненне, абсурд — і людзі з людзьмі так паступіць не могуць.

У мамы ў нейкі момант была асцярога, што сітуацыя можа скласціся настолькі дрэнна, што закране не толькі яе, але і сям'ю — і дзецям, магчыма, давядзецца кудысьці з'ехаць. Але ніхто з нас гэтага не хацеў і не хоча. Я люблю гэтую краіну, людзей, яе мову, культуру, літаратуру... І кідаць усё гэта толькі таму, што хтосьці вырашыў проста так узяць і закрыць TUT.BY і адправіць яго кіраўнікоў у турму? Я хачу вучыцца і жыць у Беларусі. Так, у гэтай краіне пасадзілі маю маму, але гэта не краіна вінаватая — яе пасадзілі канкрэтныя людзі ва ўладзе. Мая мама вельмі любіць сваю краіну, а дзяржава, падобна, вельмі не любіць маю маму. І мне надзвычай крыўдна, што людзі, якія хочуць развіваць гэтую краіну, рабіць жыццё ў ёй лепшым, якія зберагаюць нацыянальную культуру, мову, нікому не патрэбныя — і з імі паступаюць так, як з маёй мамай.

18 траўня Надзя ў Ліцэі БДУ напісала кантрольную па беларускай літаратуры — і на перапынку сяброўка сказала, што ў кватэру Золатавай зператрусам прыйшоў ДФР. Надзя паспела ўбачыць маму каля ліфта — калі яе з хаты выводзілі сілавікі. Дачка паспела абняць Марыну — і больш пакуль маму не бачыла.

— Адпраўляю маме лісты і тэлеграмы з Галоўпаштамта — іду па горадзе і ўспамінаю, як мы гулялі з ёй. Яна вельмі любіць Мінск, прагулкі, усё гэта гарадское жыццё. А цяпер мама «гуляе» ў лістах дадому: распавядае пра тое, як ішла б па Валадарцы, потым па Карла Маркса...

Нядаўна — ужо пасля затрымання Марыны Золатавай — Надзя рабіла прэзентацыю на ўроку англійскай на тэму Famous people.

Марына не ўяўляе сваё жыццё без сям'і і спорту. Катанне на роліках або бег з мужам, веславанне на байдарках з дзецьмі, бадмінтон усёй сям'ёй на выходныя... Галоўрэд TUT.BY любіць рух наперад і здаровы лад жыцця.

— Ёсць рэчы, на якія можна глядзець бясконца: усе гэтыя як цячэ вада, як гарыць агонь... Ну а я мог бы бясконца глядзець, як Марынка на адпачынку батэрфляем (дэльфінам) праплывае паўсотні метраў і ловіць пры гэтым захопленыя позіркі адпачывальнікаў побач, — успамінае муж Марыны Васіль. — Так, яна і паўмарафоны бегала, і яшчэ шмат спартыўных хобі ў нас, але для мяне яна — дэльфін. Прыгожы, смелы, свабодны.

— У мяне шмат куміраў і сярод беларусаў, і сярод сусветных зорак. Але я ўпэўненая: мама сёння вартая маёй прэзентацыі не менш за іншых. У якісьці момант педагог перапыніў мой аповед пра «справу БЕЛТА» і затрыманні па цяперашнім абвінавачванні просьбай: «No politics!» («Без палітыкі». — заўв. TUT.BY). Але гэта не палітыка. Гэта проста мая мама.

Яна вельмі сумленная і справядлівая, моцная, смелая — і ў яе ўсё будзе добра. Яна сама заўсёды так казала: «Усё дакладна будзе добра, іншага выйсця няма». Я шчаслівая, што ў мяне такая мама. Яна сапраўды была б маім кумірам, нават калі б не была маёй мамай. Калі былі гэтыя абсурдныя абвінавачванні па «справе БЕЛТА», я была ў жаху (Надзеі тады было 15 гадоў. — TUT.BY), калі самага светлага чалавека ў тваім жыцці паліваюць вёдрамі мярзотаў на дзяржаўных тэлеканалах... Я хвалявалася, вядома. А мама заўсёды казала: «Нічога страшнага. Забіць. Іх ніхто не глядзіць — і ты не глядзі». Яна заўсёды і ўсюды была вышэй за нізасці і брыдоты — калі гэта тычылася яе. Але затое прайсці міма подласці ў дачыненні да іншага не магла ніколі.

Добра памятаю, як яна шалела, калі забралі [журналіста TUT.BY] Любу Каспяровіч. Хоць здавалася б — колькі тых затрыманняў было, колькі за апошні год яе і не яе журналістаў ужо затрымалі ў РУУСах для «праверкі дакументаў», колькіх білі, забіралі апаратуру, стралялі, колькі адбывалі суткі... Але прыняць гэта і лічыць нармальным яна не магла, успрымаць зло штодзённым — гэта не пра яе.

Пакуль Марына сядзіць на Валадарцы, яе сыну Федзю спаўнілася 15. Ён скончыў навучальны год, з'ехаў у лагер — і там, кажа тата, трохі адцягнуўся. Мама ж намалявала яму паштоўку — і Федзя яе ўжо атрымаў.

— Мы яе вельмі чакаем і верым, што яна хутка будзе з намі. І ў момант, калі я яе ўбачу, я толькі моцна яе абдыму. Часам здаецца, што словы не маюць ніякага значэння, — важна толькі тое, што мы робім, — кажа Надзя. — А потым я буду доўга распавядаць маме пра тое, як усе нас вельмі падтрымлівалі. Ты жывеш — і не ведаеш, што вакол столькі добрых людзей, а потым нешта здараецца — і раптам усе побач. Але я, шчыра кажучы, адчуваю сябе крыху дзіўна: падтрымліваюць мяне — але ж падтрымка патрэбная маме, толькі я не ведаю, як ёй яе туды перадаць.

### «Нават у няволі Марына клапоціцца пра каманду»

Журналістка TUT.BY Надзея Калініна далучылася да каманды ледзь не пазней за ўсіх — у 2019-м годзе, — але менавіта ёй давялося першай з журналістаў пасля выбараў 2020-га патрапіць у ЦІП на Акрэсціна.

— У той момант Марына шмат гадзін правяла разам з іншымі нашымі калегамі па адваротны бок сцяны спачатку РУУС, потым Акрэсціна. Яна заўсёды асабіста тэлефанавала і высвятляла, што з намі і чаму мы затрыманыя. А калі стала зразумела, што мы не выйдзем, у запісцы прасіла прабачэння за тое, што «не зберагла» — хоць ва ўсёй гэтай гісторыі не было віны ні Марыны, ні нашай. За кожнага, каго ў мінулым годзе «дастаўлялі для праверкі дакументаў», яна перажывала, напэўна, не менш, чым блізкія і сябры. І рабіла ўсё магчымае і немагчымае, каб чалавек выйшаў як мага хутчэй. Проста ад яе мала што залежала, на жаль.

Надзея Калініна днямі атрымала ліст ад Марыны.

— Яна піша: «Рабяты, я ведаю, што вам цяпер значна складаней, чым нам. Але я ведаю, што ўсё ў выніку будзе добра і справядлівасць пераможа». Разумееце, нават у няволі Марына клапоціцца пра каманду і імкнецца нас падтрымаць!

Надзея Калініна кажа, што ніколі не думала, што кіраўнік такой велізарнай каманды можа быць настолькі «сваім» чалавекам: «Яна не ставіць сябе "галоўнейшай за іншых", а працуе ў камандзе, выслухоўвае ўсе меркаванні — ад неацэнных да дурнаватых — і раіцца нават тады, калі ведае, што мае рацыю менавіта яна».

— Цікава, што Марына перыядычна казала мне: «Прыходзь да мяне з пытаннямі, я не страшная». У такія моманты становіцца смешна: ну як яе наогул можна баяцца, яна ж такая класная!

Пра неверагодную здольнасць Золатавай быць гнуткай у прыняцці ўнутраных рашэнняў, слухаць і чуць кожнага свайго журналіста і рэдактара, прымаць часам пункт гледжання падначаленага як правільны, нягледзячы на свой іншы, кажа і адзін з намеснікаў галоўнага рэдактара TUT.BY Аляксандр Заяц. Разам яны працуюць з 2006 года: Марына шукала сабе замену на час дэкрэтнага адпачынку з малодшым сынам, навучыла Сашу — і сышла нараджаць. І першы Сашаў званок з пытаннем да галоўрэда пачуўся праз гадзіну пасля з'яўлення на свет маленькага Федзі. Марына, вядома, адказала.

— Як паказаў час, для Марыны TUT.BY — не проста месца працы, а, можна сказаць, яшчэ адно дзіця. Яна, нягледзячы на нейкія асабістыя абставіны, заўсёды гатовая прыйсці на дапамогу калегам.

Я ведаю даволі шмат галоўрэдаў, рэдактараў, у якіх іх меркаванне — адзіна правільнае. І кропка! Марына ў гэтым плане зусім іншая. Яна гатовая да дыялогу. Так, можа прыйсці са сваёй ідэяй, якая ёй здаецца проста афігеннай. Але калі ты ёй прывядзеш аргументы, што можна на тэму паглядзець інакш або варта пачакаць, паколькі, напрыклад, не хапае пакуль фактуры, то яна пойдзе насустрач і не будзе цісьнуць. Альбо ж, часам здаецца, што тэма ўжо заюзаная, з яе ўжо няма чаго выціснуць — і раптам з'яўляецца Марына і прапануе, як яшчэ можна зірнуць на праблему. І ты разумееш: сапраўды, чаму не?

Увесь гэты час мне з Марынай працавалася вельмі камфортна. Спадзяюся, што і яшчэ папрацуем. Я не магу казаць пра галоўрэда і пра ўвесь TUT.BY у мінулым часе.



# «Калі Францішку прыносяць падарункі,

Дзіяна СЕРАДЗЮК




**Магілёўскі абласны суд 25 траўня пакараў палітзняволенага хрысціянскага дэмакрата Паўла Севярынца сямю гадамі пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Пасля суда родныя ўпершыню за год змаглі ўбачыцца з ім на спатканні.**

**«Цяпер хрысціяне жывуць так, нібыта нічога не адбываецца, зусім нямногія цэрквы выказваюцца. Падбіраюць словы: як бы гэта памаліцца за Беларусь, каб нікога не пакрыўдзіць. Але так быць не павінна, ты ж у сэрцы адчуваеш, за што трэба маліцца»**

Жонка Паўла Вольга Севярынец распавяла «Новаму Часу», як для яе і трохгадовага сына Францішка прайшла першая сустрэча з татам, як яна захоўвае сувязь з мужам і што ён перадае з-за кратаў усім беларусам.

***— Многія родныя палітвязняў не хочуць распавядаць пра сваіх блізкіх, якія аказаліся за кратамі, баючыся ім нашкодзіць. Вы ж, наадварот, заўсёды імкняцеся да агалоскі. Чаму гэта важна?***

— Пра агалоску мне падчас сустрэчы сказаў сам Павел. Але гэтая інфармацыя тычыцца канкрэтна яго: ён вядомы, пра яго заўсёды гавораць, таму, калі пра яго пішуць, тым у большай бяспецы ён пачуваецца. Ён сказаў: «Чым больш пра мяне гаворань, тым акуратней да мяне ставяцца».

Звычайна родныя палітвязняў пачынаюць біць ва ўсе званы, калі іх сваяка кідаюць у карцар ці ў яго пачынае пагаршацца здароўе. Але не трэба чакаць крайняй ступені, не трэба баяцца агалоскі. І родныя павінны зразумець, што гэта толькі ад іх залежыць. Варта звяртацца да СМІ, праводзіць флэшмобы, крэатывіць — рабіць усё, на што толькі хопіць фантазіі, і рабіць гэта пастаянна. Асабліва гэта важна, калі адбываецца этап у новую турму ці калонію, бо яны там усе роўныя, ніхто не разбіраецца — Севярынец гэта ці забойца, які сядзіць ужо не першы раз. Гэта нам здаецца, што пра нашых родных усе ўсё ведаюць, а па факце гэта не так.

Яшчэ Павел сказаў, што Вітольд Ашурак, магчыма, уратаваў жыцці некаторых людзей, бо пасля яго смерці да зняволеных пачалі ставіцца па-іншаму.

Іншае стаўленне з'яўляецца і тады, калі вязня часта наведвае адвакат. Калі ў турме бачаць, што чалавек, так бы мовіць, пад кантролем, ён важны, яму пішуць лісты, дасылаюць бандэролі, ходзіць адвакат — да яго ставяцца акуратней. Нават калі я хаджу каля турмы, спрабую размаўляць з супрацоўнікамі — яны бачаць, што за чалавекам стаіць сям'я, як кажа Ганна (Ганна Севярынец, сястра Паўла Севярынца. — НЧ), «людзі, якія ад іх адрозніваюцца». Таму нам трэба імкнуцца быць максімальна інтэлігентнымі.

***— Нядаўна ты ўпершыню амаль за год убачыла мужа. Як прайшло першае спатканне?***

— Мы хадзілі з Францішкам. У мяне было шмат пачуццяў, якія я так і не змагла сабраць разам, бо трэба было не забыцца нічога расказаць, перажывала, як дзіця вытрымае дзве гадзіны ў закрытым памяшканні, сам Паша быў трывожны, бо перад спатканнем у яго забралі паперку, дзе ён занатаваў тое, пра што хацеў сказаць. Але Францішак паспеў з ім праз слухаўку пра нешта паразмаўляць — я нават не ведаю, пра што, бо там такая слухаўка, у якую можа гаварыць толькі адзін чалавек. Але цікава: пасля гэтай сустрэчы Францішак пачаў прыносіць і дарыць мне кветкі. Я спытала: «Цябе нянечка гэтаму навучыла?» Ён кажа: «Не». — «А хто? Тата?» — «Так».

Францішак вельмі добра ўспрыняў тату. Ён спачатку засаромеўся, апусціў галаву, але было бачна, што ён узрадаваўся, хацеў пайсці да яго на рукі. Ён не забыў тату, не спужаўся гэтай абстаноўкі, паводзіў сябе спакойна — здаецца, Францішак таксама баец *(усміхаецца)*. Але мы доўга яго да гэтага рыхтавалі. Я прагаварвала ўсё, што там будзе: дзядзькі ў форме, будуць мераць тэмпературу, будуць краты і шкло, мы праз трубачку будзем з татам гаварыць. Адказвала на пытанні, якія ён задаваў, але не казала нічога звыш. Прагаварвала, як мы паедзем, як зойдзем, дзе сядзем, што будзем есці. Я думаю, трэба інтуітыўна адчуваць, і калі дзіця не хоча, лепш яго не весці. Але я разумела, што і для Пашы вельмі важна было пабачыць яго, бо калі ён сышоў, Францішак яшчэ не гаварыў, а цяпер ён цалкам размаўляе.

Напрыканцы быў шчымлівы момант, калі канваір прыйшоў нас забіраць, бо скончыўся час, і я сказала Францішку, што мы пойдзем. А ён здзівіўся і кажа: «Я хачу, каб тата са мной пайшоў на вуліцу». Я сказала, што тата не можа пайсці з намі, а ён спытаў — чаму? І гэты канваір стаяў і глядзеў на нас, і я думаю: ці пераварочваецца нешта ў яго сэрцы?..

Францішак узгадваў гэтую сустрэчу, падарункі, якія мы дарылі яму ад таты. Але пасля гэтага ён пачаў гуляць у турму: цягне людзей у пакой, зачыняе дзверы і гаворыць, што яны ў турме, таму іх не выпусцяць. Гэта трывожны званок для мяне, трэба думаць, што з гэтым рабіць.

***— Год для трохгадовага дзіцяці — гэта шмат. Як ты падтрымліваеш яго сувязь з татам, пакуль яго няма?***

— Кантакт з Паўлам у яго не згублены — мы ўвесь час пішам яму лісты, нешта малюем, молімся. Калі я хаджу праверацць, ці прыйшоў ліст, Францішак стаіць у калідоры і чакае: «Ну што?» Калі Францішак бачыць, што я сумую, падыходзіць і кажа: «Мама, давай памолімся за тату». Часам ён просіць напісаць ліст тату, сядае чамусьці за кампутар. Я ў яго распытваю, што напісаць пра яго, чаму ён навучыўся. Часам Францішак сам прапануе што-небудзь тату намаляваць. Ён малюе, потым кладзе малюнак у канверт, адрывае паласу і нясе закідваць у скрыню. Гэта для яго цэлая падзея.

Мы пастаянна глядзім відэа з Пашам, я ўвесь час пра яго штосьці расказваю, зачытваю кавалкі лістоў, адрасаваных сыну. Цяпер у яго гульня «Раскажы, што будзе, калі тата вернецца». Бо Паша там панабяцаў яму такой прыгажосці! Жартуе: «Калі мы паедзем у Норку». Норка — гэта родавая Пашава вёска Унорыца. Там і рака, і зоркі, і гамак, і летні домік з камінам, і машынкі…

Калі прыносяць Францішку падарункі, я заўжды падкрэсліваю, што гэта тату, што іх тату любяць, і ён — герой.

Францішак расце — і я бачу, як ён патрабуе тату. Калі ён глядзіць на нашыя фотаздымкі, ён кажа «мама» і — з іншай эмоцыяй — «тата». Гэта проста душу рве.

***— Што Павел перадаў з-за кратаў беларусам?***

— Ён пастаянна просіць перадаваць вялікую падзяку ўсім, хто яму піша, падтрымлівае і дапамагае сям'і. Ён вельмі перажывае, што я без яго, ці штó ў бацькоў не хапае грошай. Бачна, што ён вядзе над сабой унутраную працу. Напісаў прабачальныя лісты тым людзям, якіх недзе пакрыўдзіў. Кажа, што, калі абстрагавацца, у турме таксама адбываецца шмат светлага, але трэба быць вельмі адкрытым да розных знакаў і падзей. Але бачна, што яму там цяжка. Вось ён сядзіць перад табой, здаецца, твой родны муж, а, калі вобразна апісаць, за ім навісае штосьці, што часткова трымае яго там.

Павел увесь час пытаецца, што кажуць цэрквы, як ідзе малітва за Беларусь. Бо ў яго ёсць такое адкрыццё: пакуль не выкажуцца цэрквы — нічога не будзе. Ён кажа, што гэта вельмі важна, царква павінна даваць прыклад. Цяпер хрысціяне жывуць так, нібыта нічога не адбываецца, зусім нямногія цэрквы выказваюцца. Падбіраюць словы: як бы гэта памаліцца за Беларусь, каб нікога не пакрыўдзіць. Але так быць не павінна, ты ж у сэрцы адчуваеш, за што трэба маліцца.

Павел распавядаў прыгожую гісторыю пра малітву. На судовым пасяджэнні ён кажа тым, хто праходзіў з ім па адной справе: давайце памолімся. А там былі розныя людзі, збольшага няверуючыя. Але гэта ж Севярынец! Тады ішоў дождж, а на момант, калі яны сталі маліцца, узышло сонца. Як толькі скончылі маліцца — зноў пайшоў дождж. І ўсе яму кажуць: «Паша, як ты гэта зрабіў?» А Паша кажа: «А гэта не я». У яго было адкрыццё, што мы дойдзем да такога моманту, калі застанецца



# кажу: гэта таму, што тата — герой»

малітва — і больш нічога. Таму трэба маліцца, у Беларусі павінна быць вялікае пакаянне. Паша па лістах бачыць, што Госпад працуе з сэрцамі, ён кажа, што гэта велізарныя зрухі, якія не могуць адбыцца хутка.

***— Як патлумачыць звычайным людзям, якія, можа, нават за Лукашэнку ніколі не галасавалі, што яны павінны пакаяцца? У чым?***

— Пра пакаянне сказана вельмі шмат, але ты адказваеш толькі за сябе. Таму каяцца трэба кожнаму ў тым, у чым ён бачыць патрэбу. Нават калі мы не галасавалі за Лукашэнку — мы ж яго самі выгадавалі, мы вінаватыя. Трэба каяцца ў тым, што нават цяпер, калі забіваюць чалавека, мы не можам нешта зрабіць. Каяцца заўсёды ёсць за што. За быццё Курапатаў. За няведанне мовы, гісторыі. Мы збольшага не ведаем, за што змагаемся.

***— Давай вернемся да вашых з Паўлам адносінаў. Вы амаль год не бачыліся, як удаецца захоўваць кантакт адно з адным?***

— Пакуль мы не пабачыліся, я не ведала, у якія гадзіны ён моліцца. Але часам я гэта нават фізічна адчувала. Бывала, мне ўвечары кепска — а потым як рукой зняло. Калі я ў яго спытала, аказалася, што ён моліцца ў гэтыя гадзіны. І цяпер я таксама малюся тут, калі ён моліцца там.

У адным лісце я нават пісала яму, што баюся, што мы згубім сувязь, бо, як бы там ні было, каб выжыць, ты павінен абстрагавацца. Таму я стараюся не накручваць свае думкі аб тым, што я яго кахаю, а яго няма. Я частку сваіх пачуццяў як бы замарожваю і думаю, што мне трэба зрабіць, каб яму дапамагчы.

Але ён адказаў, што ў яго і блізка няма такога адчування, што мы губляем сувязь, бо, па-першае, ён за нас моліцца, а па-другое — дзівоснае дзіва — мы яму снімся амаль праз дзень. Прычым сны такія яркія, вобразныя, каляровыя, дзе мы разам гуляем ці падарожнічаем на нейкіх караблях. Ён кажа, што заўсёды перад днём, калі ён абдумвае ліст да нас, мы яму снімся.

Маё жыццё цяпер, асабліва пасля сустрэчы, выглядае так, што ўсе мае планы і справы — бізнес, вучоба — адсунутыя далёка, бо я разумею што гэта мне спакою не дасць. Як пажартавала Ганна, я працую жонкай палітвязня. Яго справы, кнігі займаюць каласальную колькасць часу.

Пра той час, калі ён вызваліцца, цяпер нават няма гаворкі — галоўнае, каб ён увогуле вярнуўся.

***— На тваю думку, што Паўлу дае сілы не толькі самому трымацца, але і натхняць тых, хто па іншы бок кратаў?***

— Паколькі ён верыць у Бога, у яго крыху іншы погляд на падзеі, якія адбываюцца. Ён мяркуе так: мяне Госпад сюды паставіў, значыць, я для чагосьці тут патрэбен. Па-другое, па характары ён вельмі цярплівы. Дакладней, упарты, але за гады адсідак ён сваю ўпартасць навучыўся перафармоўваць у цярплівасць. А яшчэ ён не прывык нікога напружваць сваімі праблемамі, ён нават мне ў лістах не скажа, што яму нешта трэба. Яшчэ адна яго рыса: калі ён бачыць нейкую несправядлівасць ці што камусьці патрэбная дапамога, ён не можа прайсці міма.

***— Які ў яго стан здароўя?***

— Калі адным словам, я так разумею, цярпіма. Але пасля Акрэсціна ў яго застуджаныя суставы. Неяк у матулі ён прасіў цёплую бялізну — я не ведаю, з чым гэта звязана. У Пашы і раней былі хранічныя галаўныя болі, і цяпер яму баліць галава. Таблеткі ён стараецца не піць, дый там, відаць, справа ў тым, што ён у пастаяннай напрузе. Яны там нават спяць, згрупіраваўшыся, каб у любы момант падскочыць і кудысьці адправіцца. У яго пацямнеў твар, бо там мала паветра. Турма, канешне, здароўя нікому не дадае.




**«Трэба несці свой крыж і дапамагаць яму несці ягоны. Трэба штосьці рабіць для краіны, бо ўжо не той час, калі можна проста працягваць далей жыць. Трэба быць разам і гуртавацца. Мы верым у тое, што ўсё будзе добра, і робім для гэтага ўсё, што можам»**



***— Перадаеш яму нешта асаблівае ў перадачах?***

— Калі была магчымасць, на Акрэсціна мы перадавалі яму свежыя асобнікі яго кніг, каб ён хоць у руках мог іх патрымаць. Паша ўвогуле не любіць, каб былі лішнія рэчы, таму падтрымаць яго можна хіба што праз ежу, але і тут ён дастаткова стрыманы, больш радасці яму прынясе, калі перадача будзе сабраная па спісе. На гадавіну яго пакаяння я перадавала яму пернікі з цытатай «Няхай не сумняваецца сэрца вашае», і для яго гэта сталася цудам.

***— Як цяпер справы з ліставаннем?***

— У Магілёве горш. На «Валадарцы» яму прыходзіла 50–60 лістоў на тыдзень, а ў Магілёве аддаюць 10–15 разам з лістамі ад родных. Родным таксама лісты ідуць кепска, вельмі марудна. Таму мы пішам тэлеграмы. А так за ўвесь час ад яго прыйшло больш за 100 лістоў. Таксама ён падкрэслівае, што на ўсе лісты, якія да яго даходзяць, ён адказвае, але ў Магілёве перапіску ўскладняе яшчэ і тое, што ліст можа дайсці, але адказ на яго не выпусцяць.

***— Як змянілася тваё жыццё за гэты год, што Павел за кратамі? Ці час проста замёр?***

— Першы час, сапраўды, я жыла ў чаканні, што Паша выйдзе — і пачнецца жыццё. Але цяпер я бачу, што трэба неяк ад гэтага пазбаўляцца і працягваць жыць, у першую чаргу дзеля Францішка. Я стараюся, каб у яго за гэты час не было сумных успамінаў.

Многія людзі і Паша гавораць пра тое, што я пасталела за гэты час. Бо гэта добры духоўны рост: ты пастаянна вучышся, працуеш над рысамі свайго характару. Я паставіла сабе мэту, што не буду піць антыдэпрэсанты, буду спраўляцца сама. Да псіхатэрапеўта я таксама не буду хадзіць, бо, па-першае, гэта заняты час, па-другое, капаць трэба вельмі глыбока, і для мяне гэта яшчэ большы выплеск пачуццяў. Таму я працую сама з сабой, сустракаюся з моцнымі духоўна людзьмі, малюся, пастаянна знаходжу для сябе духоўныя апоры, якія кожны раз мяняюцца.

Часам я разумею, што павінна падняцца яшчэ на адну прыступку вышэй, але гэта ў мяне ўжо «не лезе», хочацца, каб нехта мяне ад гэтага пазбавіў. Але я разумею, што ніхто не пазбавіць. Гэта кшталту: «Мама, я не хачу ісці ў школу! — Сынок, уставай, ты ж настаўнік!». Але я думаю, што ўсе гэтыя цяжкасці пасля забудуцца, а застанецца толькі тое светлае, што мы робім.

***— Ці ўяўляла ты дзень, калі Павел выйдзе?***

— Колькі разоў я яго ўяўляла! Для мяне адна з прыемных рэчаў — падумаць, як мы ўбачымся і што пры гэтым будзе. Мне гэта дае палёгку. Цяпер я «прамацваю» ў сабе, што ўва мне адгукаецца, каб угадаць, як гэта будзе. У мяне такое адчуванне, што потым будзе нейкае спусташэнне, бо ўсе пачуцці, якія назапашваюцца ўвесь гэты час, разам не выйдуць. І тады б я, можа, да псіхолага ўжо схадзіла.

Я вельмі доўга ўяўляла спатканне з Паўлам, але калі ты сядзіш сам-насам з чалавекам, здаецца, што няма пра што размаўляць. Бо тое, пра што хацеў сказаць, ужо не такое важнае, яно ўсё прайшло. У мяне сшыткі спісаныя рознымі гісторыямі, якія я хацела яму распавесці. Але гэта ўжо здаецца няважным — ён проста ёсць, і хочацца жыць далей.

***— Як цяпер можна падтрымаць Паўла і цябе?***

— Мяне можна падтрымаць, падтрымаўшы Паўла. Нас падтрымліваць не трэба — нам ад яго славы і так штосьці перападае: Францішак увесь у падарунках, а мне прыносяць такія букеты, якіх і на вяселлі не было. А Паўла можна падтрымаць, проста памятаючы пра яго, гаворачы, каб яму пісалі, дасылалі тэлеграмы, каб там, дзе ён ёсць, бачылі, што пра яго памятаюць. Маліцца за яго — гэта адзінае, што можа вязняў абараніць.

***— Уся ваша сям'я для многіх — прыклад стойкасці. Што вам дае моцы трымацца?***

— Тое, што так трэба. Можна кідацца ў роспач — але каму гэта дапаможа? Толькі дзіця нервуецца, і ты падрываеш сваё здароўе. Трэба несці свой крыж і дапамагаць яму несці ягоны. Трэба штосьці рабіць для краіны, бо ўжо не той час, калі можна проста працягваць далей жыць. У сям'і мы неяк адзін аднаго падтрымліваем, кожны змагаецца на сваім фронце, і ўвесь час можна звярнуцца адзін да аднаго па падтрымку. Трэба быць разам і гуртавацца. Мы верым у тое, што ўсё будзе добра, і робім для гэтага ўсё, што можам. Абстрагуемся ад лічбаў, не будуць яны сядзець усе гэтыя гады. Нават тыя 7 гадоў з улікам таго, што ён ужо адседзеў, — засталося 5,5 года, гэта ўжо лягчэй успрымаецца.

***— Ты паспяваеш займацца крамай?***

— Наша крама цяпер жыве сама сабой, я яе адклала, хаця замовы там пастаянна ёсць і яна ўсё роўна добра працуе. Таму я цяпер шукаю чалавека, які б мог ёй займацца. Трэба рабіць шмат якіх рэчаў: збіраць замовы, сачыць за колькасцю тавараў, займацца распрацоўкай і пошукам вытворчасці, сацсеткамі, сайтам. Гучыць шматфункцыянальна, але я сама рабіла гэта ўсё з нуля і гатовая вучыць. Там працы на 2–3 гадзіны на дзень, яе можна сумяшчаць з чымсьці іншым, але я шукаю чалавека на сталы час.

***— Што яшчэ важна сказаць цяпер пра Паўла?***

— Каб пра яго па магчымасці гаварылі і пісалі, а таксама чыталі яго кнігі. На судзе Павел сказаў, што нічога не будзе гаварыць, бо ўсё напісана ў яго кнігах. І для беларусаў цяпер гэта таксама важна.

**Фота Дзмітрыя Дзмітрыева**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Пушкіна забілі геі?

Чарговая гадавіна нараджэння Аляксандра Пушкіна не абышлася без сенсацый. Калі верыць аўтарам публікацыі ў прапуцінскай газеце «Взгляд», вялікага расійскага паэта забілі прадстаўнікі ЛГБТ. Дакладней, не забілі, а проста справакавалі Пушкіна выклікаць Дантэса на дуэль пасля таго, як літаратар пазнаёміўся са зместам ананімнага ліста, абразлівага для гонару яго жонкі. У выніку Пушкін адправіў на адрас прыёмнага бацькі Дантэса надзвычай рэзкі ліст — і ў той жа дзень атрымаў на сваё імя выклік на дуэль.

Што было далей — вядома ўсім, аднак чамусьці аўтара таго першага скандальнага ліста асабліва не шукалі. І вось яго знайшлі, а дакладней — іх. Калі верыць згаданаму артыкулу, гэта Іван Сяргеевіч Гагарын і князь Пётр Даўгарукі, якія жылі разам і, акрамя таго, цікавіліся каталіцызмам.

Паводле расійскага выдання, такі лад жыцця і выклікаў у тандэма князёў дзіўныя забабоны — намаганне забіць літаратара, якое яны рэалізавалі рукамі Дантэса.

**Паводле расійскай прэсы**

### ПАР. Кабетам дазволяць гарэмы

Як піша нямецкае выданне Die Welt, у парламенце Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі (ПАР) пачалося абмеркаванне законапраекта, які дазволіць жанчынам браць шлюбы адразу з некалькімі мужчынамі.

Мэта рэформы — зраўняць слабы пол у правах з моцным. Нягледзячы на тое, што афіцыйна палігамія ў ПАР не дазволена, яна не пераследуецца па законе, паколькі ў падобных адносінах жывуць сотні тысяч людзей па ўсёй краіне. Прычым, не толькі бедныя. Як прыклад можна ўзгадаць, што ў былога прэзідэнта ПАР Джэйкаба Зумы афіцыйна было аж чатыры жонкі.

З іншага боку, у законапраекта ёсць праціўнікі. Яны сцвярджаюць, што падобны закон прывядзе да яшчэ большай блытаніны ў сямейных адносінах — спатрэбіцца правядзенне шматлікіх ДНК-тэстаў, каб высветліць, хто ж на самай справе з'яўляецца бацькам дзіцяці.

**Паводле нямецкай прэсы**

### УКРАІНА. Вялікая сіла тэлебачання

Тое, што адбылося ў вёсцы ў Залатаношскім раёне Чаркаскай вобласці Украіны, яшчэ раз яскрава даводзіць, наколькі моцна тэлебачанне здольнае замбаваць старую генерацыю.

Гэтым разам ахвярай блакітнага экрану стала пенсіянерка, якая вырашыла паглядзець выпуск навінаў. Фрагментам тых навінаў быў блок пра хуткі напад Пуціна. Інфармацыя пра інтэрвенцыю Пуціна чамусьці так уразіла пенсіянерку, што тая вырашыла схавацца ад акупантаў. У якасці «бункеру» быў абраны калодзеж у двары. Небарака ўзяла з сабой печыва, падушку і скочыла ў калодзеж — і ў выніку зламала абедзве нагі. Там жанчына правяла два дні, пакуль ратавальнікі не дасталі пацярпелую і не перадалі яе супрацоўнікам «хуткай дапамогі». Па словах медыкаў, старой вельмі пашанцавала.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ЗША. Трамп рыхтуе путч?



Фота www.glavred.info

Ліберальная прэса ЗША ўсур'ёз дапускае, што Трамп і яго прыхільнікі з радыкальнага крыла Рэспубліканскай партыі рыхтуюць спробу вайсковага перавароту.

Пра гэта, на думку лібералаў, сведчыць не толькі нядаўняя заява групы амерыканскіх генералаў з крытыкай на адрас Байдэна і яго курсу. Звяртаецца ўвага, што выбаршчыкаў Рэспубліканскай партыі вельмі цікавіць вопыт М'янмы, дзе ў лютым гэтага года ўладу захапілі вайскоўцы. Дарадчыкі Трампа на публічных сустрэчах таксама асцярожна даюць зразумець аўдыторыі, што не супраць такога сцэнару. Хаця пасля такіх заяў яны намагаюцца казаць, што іх няправільна зразумелі, прэса робіць катэгарычнае рэзюмэ: у нетрах партыі Трампа сапраўды ёсць ідэя путчу.

Называецца нават дата — 2 лістапада гэтага года, калі ў шэрагу штатаў пройдуць выбары ў Кангрэс і Сенат.

**Паводле амерыканскай прэсы**



Фота www.socialist.news

# Забыць пра Цяньаньмэнь

*Алег НОВІКАЎ*

**Напярэдадні цяперашняй гадавіны разгону пратэстаў на плошчы Цяньаньмэнь улады паспрабавалі прымусіць кітайцаў забыцца на тыя падзеі.**

Трэба прызнаць, што ў Пекіне і раней не вельмі любілі ўспамінаць тыя пратэсты ў цэнтры кітайскай сталіцы. Прычыны, у прынцыпе, відавочныя — рэжым камуністаў увесну 1989 года быў на мяжы краху. Цэнтр Пекіна быў захоплены прыхільнікамі рэформаў, якіх падтрымлівалі мясцовыя «майданы» і камітэты рабочых на прадпрыемствах. Вертыкаль дзе-нідзе адкрыта вагалася. Як мы ведаем цяпер, у казармах многія не разумелі, як армія, якая называецца народна-вызваленчай, можа выступаць супраць свайго ж народа.

Пры адпаведным збегу падзей усё магло скончыцца перамогай вуліцы. Аднак, як вядома, у выніку ў пачатку чэрвеня з дапамогай вайсковых фарміраванняў выступленні былі задушаныя. Колькасць ахвяр расправы ацэньваецца ў дыяпазоне ад некалькі сотняў да некалькіх тысяч.

Нягледзячы на негатыўную ацэнку апісаных падзей, асаблівага фанатызму з боку кітайскіх ідэолагаў у гэтай сферы доўга не назіралася. Хоць рэпрэсіі на плошчы Цяньаньмэнь былі і з'яўляюцца вельмі адчувальнымі для камуністычнага кіраўніцтва, асаблівых намаганняў для таго, каб сцерці згадкі пра пратэст з калектыўнай памяці, не было. Навязвалася ўстаноўка, што ў асноўным мірныя пратэсты маглі ўвесці краіну ў хаос, падобны таму, які напаткаў экс-СССР у 1990-я гады.

Лепшай дэманстрацыяй такога палавіністага падыходу была традыцыйная акцыя ў парку Вікторыі ў Ганконгу ў памяць пра ахвяраў расправы на Цяньаньмэнь. Праводзіць яе пачалі яшчэ да афіцыйнага ўз'яднання тэрыторыі з Кітаем у 1992 годзе. Пасля ўз'яднання традыцыя працягнулася на 30 гадоў — прычым, з санкцыі новых уладаў.

Цяперашнюю 32-ю гадавіну эксперты разглядаюць як паваротны момант у падыходах улады да плошчы Цяньаньмэнь і яе спадчыны. Кітайскія ўлады, мяркуючы па ўсім, уводзяць палітыку нулявой цярпімасці для тых, хто разглядае пратэсты 1989 года ў пазітыўным ракурсе або ўвогуле памятае пра іх.

Няма сумневаў, што карэкціроўка падыходаў выклікана абвастрэннем адносін з Захадам, які артыкулюе тэмы правоў чалавека ў Кітаі. Не выпадкова спробы заходніх дыпламатаў згадаць пра падзеі 1989 года ў Пекіне вельмі жорстка каментуюцца ў Кітаі. Падключылі нават інтэрнэт-троляў. Пасля таго, як амбасада Вялікабрытаніі размясціла выяву свечкі ў гадавіну разні на плошчы Цяньаньмэнь, у кітайскіх сетках вірусным стаў фальшывы хэштэг пра смерць каралевы Елізаветы.

Акрамя Яе Вялікасці адной з першых ахвяр новай палітыкі памяці ў дачыненні да Цяньаньмэня стала 65-гадовая пекінская пенсіянерка Аляксандра Вонг, якая штогод на пачатку чэрвеня ўзгадвае ахвяраў гвалту. Адмаўляцца ад старой звычкі яна не збіралася і ў гэтым годзе, пра што напярэдадні праз прэсу праінфармавала дзяржаўныя органы. «Я адзінокая старая, якую няма сэнсу спыняць», — пісала яна. Зрэшты, такая прадбачлівасць не дапамагла: як піша нямецкая прэса, бабульку ўсё роўна ў рамках прафілактычных мер арыштавалі за несанкцыянаваную акцыю.

Аматараў адзначаць гадавіну трагедыі пераследуюць не толькі ў мацерыковым Кітаі. У Ганконгу, здаецца надоўга, перапынілася згаданая вышэй традыцыя мемарыяльных мерапрыемстваў у парку Вікторыя. Праўда, не дазволілі людзям выйсці ў парк і ў мінулым годзе. Аднак тады ў адміністрацыі была фармальная падстава для забароны акцыі — пандэмія.

У гэтым жа годзе ўлады вырашылі не міндальнічаць, і, са спасылкай на новы закон аб бяспецы, акцыю ў парку проста забараніць. Адначасова грамадзянам нагадалі, што ўдзельнікам забароненых мерапрыемстваў — паводле ўсё таго ж закону — пагражае да пяці гадоў турэмнага зняволення.

Асобная ўвага напярэдадні цяперашняй гадавіны была нададзеная інтэрнэту. У кітайскім сеціве прайшла аперацыя па «сціранні» сайтаў, тэматычных акаўнтаў у сацсетках, артыкулаў у анлайн-энцыклапедыях, якія прысвечаныя пратэстам 1989-га. Замест іх з'явіліся матэрыялы пра гвалт пратэстоўцаў у 1989 годзе ў дачыненні да сілавікоў. Сапраўды, тады мелі месца малавядомыя раней выпадкі нападу на паліцэйскіх.

Напэўна, далей за ўсіх пайшлі рэдактары папулярнай кітайскай праграмы WeChat. Яны заблакавалі для карыстальнікаў смайлікі ў выглядзе свечак. У выніку многім карыстальнікам для выказвання адносінаў да падзей 1989 года давялося звярнуцца да каламбураў і намёкаў.

Не забыліся пра школьнікаў. У навучальныя ўстановы былі спушчаныя цыркуляры, якія забаранілі настаўнікам наогул прыгадваць на ўроках пра Цяньаньмэнь. Размова на гэтую тэму прыраўноўваецца да пратэставага ўчынку, які можа каштаваць педагогу турэмнага зняволення.

Пакуль цяжка сказаць, наколькі эфектыўнай аказалася цяперашняя прачыстка мазгоў наконт Цяньаньмэнь. У тым ліку і таму, што ў сутнасці кампанія яшчэ працягваецца. Акрамя таго, кампанія беспрэцэдэнтная, паколькі ў яе фокусе знаходзіцца моладзь, на розумы якой спрабуюць уплываць праз новыя тэхналогіі. Так ці інакш, відавочна: у выпадку поспеху кампаніі гэтыя напрацоўкі зацікавяць іншыя аўтарытарныя дзяржавы, у календарах якіх таксама ёсць нязручныя для рэжымаў даты.

# Смерць на Басфоры

Алег НОВІКАЎ

**Азербайджанскія дысідэнты сцвярджаюць, што рэжым Ільхама Аліева пачаў практыкаваць забойствы палітычных апанентаў у эміграцыі. Пра гэта, маўляў, сведчыць загадкавая смерць Байрама Мамедава.**



Фота www.jam-news.net

Лічыцца, што аперацыі супраць эмігрантаў-апазіцыянераў — гэта фірмовая фішка Лубянкі. Расійскія спецслужбы падазраюць у датычнасці да цэлага шэрагу смерцяў і забойстваў вядомых крытыкаў Пуціна. Акрамя ГРУ і ФСБ, на гэтай глебе, як лічаць некаторыя, у свой час засвяціўся казахстанскі Камітэт нацыянальнай бяспекі (КНБ). Прынамсі, гэтаму ведамству прыпісвалі ў 2015-м смерць Рахата Аліева — бізнесоўца, мужа дачкі Назарбаева, які пасварыўся з цесцем і збег у Аўстрыю ў статусе вядучага апазіцыянера краіны. У Вене праз нейкі час яго знайшлі павешаным у турэмнай камеры. Раней Аліеў неаднаразова скардзіўся, што ў Аўстрыі за ім сочаць цывільныя, вонкава падобныя да агентаў КНБ.

І вось цяпер, калі верыць азербайджанскім незалежным медыя, ліквідацыяй ворагаў за кардонам заняўся Баку. Падставай для такога кшталту версій стала трагедыя Байрама Мамедава.

Мамедаў у маладосці сімпатызаваў анархістам, стаў вядомы ў Азербайджане пасля таго, як 24 траўня 2016 года — у дзень нараджэння Ільхама Аліева — разам з сябрам Гіясам Ібрагімавым размаляваў помнік нябожчыку, экс-прэзідэнту Гейдару Аліеву, бацьку цяперашняга кіраўніка дзяржавы. Актывісты напісалі на манументе «Далоў сістэму!» па-англійску і «Віншуем з Днём раба!» на азербайджанскай мове. Пасля яны сфатаграфавалі свае творы, выклалі адпаведныя здымкі ў сацыяльныя сеткі. Праз некалькі гадзін іх затрымалі і абвінавацілі ў захоўванні наркотыкаў у буйным памеры.

Пры гэтым паліцэйскія яўна перастараліся накont наяўнасці доказаў. Як адзначаў на судзе абаронца Мамедава і Ібрагімава, кілаграмы гераіну, якія знайшлі ў яго кліентаў, каштуюць вельмі дорага, прыкладна дзесяць тысяч долараў. «Адкуль у студэнтаў з простых сем'яў, што ледзь зводзяць канцы з канцамі, такія грошы? Ці сталі б гандляры наркотыкамі падвяргаць сябе рызыцы і рабіць графіці на помніку? Гэтая крымінальная справа — абсалютная хлусня», — даводзіў адвакат на працэсе.

Зрэшты, пратэсты адвоката і праваабаронцаў засталіся не пачутымі. Таксама як заявы падсудных, што іх прымусілі прызнацца ў здзяйсненні злачынства катаваннямі. Паводле вердыкту азербайджанскай Феміды, кожны з хлопцаў атрымаў па дзеяць гадоў пазбаўлення волі. У дадатак іх прымусілі публічна папрасіць прабачэння ў помніка Аліеву.

Аднак, дзякуючы міжнароднай кампаніі, турэмны тэрмін скарацілі. У сакавіку 2019 года Мамедаў і Ібрагімаў былі памілаваны. А ў студзені 2020 года Еўрапейскі суд па правах чалавека, разгледзеўшы іх скаргі на катаванні і парушэнне свабоды слова прысудзіў ім па 36 тысяч еўра кампенсацыі.

Пасля гэтага імя Мамедава вярнулася ў інфармацыйныя стужкі толькі ў траўні гэтага года. На жаль, з трагічнай нагоды. Са Стамбулу прыйшло паведамленне, што 5 траўня той быў знойдзены мёртвым на беразе праліва Басфор у Стамбуле.

Турэцкая паліцыя і азербайджанскія СМІ спачатку загаварылі пра самагубства, аднак хутка гэтую версію давялося адкінуць. Справа ў тым, што раней хлопец атрымаў стыпендыю на навучанне ў Лондане, і павінен быў пераехаць туды з верасня

**Паводзіны туркаў схіляюць да думкі, што Анкара таксама неяк замешаная ў гэтую справу. Гэта не дзіўна, паколькі аліеўскі Азербайджан і эрдаганаўская Турцыя супрацоўнічаюць у шматлікіх сферах**

гэтага года. Наўрад ці чалавек, перад якім адкрываюцца такія гарызонты, будзе накладаць на сябе рукі. Пра аптымістычны настрой Мамедава кажуць і тыя, хто бачыў яго напярэдадні трагедыі.

Пазней паліцыя прапанавала новую версію: няшчасны выпадак. Было заяўлена, што Мамедаў скокнуў у ваду, каб выцягнуць свой абутак, і выніку пайшоў на дно, паколькі не ўмеў плаваць. Аднак у гэтай тэорыі таксама мноства супярэчнасцяў. Найперш, як кажуць родныя і сябры Байрама, той на самай справе някепска плаваў.

Але нават калі б Байрам меў праблемы, трапіўшы ў ваду, то на дапамогу павінна была прыйсці паліцыя або берагавая ахова. Паколькі ў Турцыі дзейнічаюць дастаткова жорсткія каранцінныя абмежаванні, людзей на беразе было вельмі мала, і не заўважыць чалавека, які скокнуў у мора, было практычна немагчыма. Паліцыя і берагавая ахова на падобныя аргументы рэагуюць вельмі дзіўна. Ахоўнікі кажуць, што не дапамаглі хлопцу праз тое, што, паводле дзіўнага супадзення, ніхто з тых, хто быў на змене, плаваць не умеў. Паліцыя ў сваю чаргу ўпарта адмаўляецца публікаваць відэазапісы з камер назірання на шляху ад дома Мамедава да таго месца, дзе яго бачылі ў апошні раз. Усё гэта дазваляе падазраваць, што сілавікі нешта хаваюць.

Паводзіны туркаў схіляюць некаторых да думкі, што Анкара таксама неяк замяшаная ў гэтую справу. Гэта не дзіўна, паколькі аліеўскі Азербайджан і эрдаганаўская Турцыя супрацоўнічаюць у шматлікіх сферах, у тым ліку ў галіне бяспекі. Узгадваюць, што, калі Мамедаў толькі заехаў у Турцыю, яго ў аэрапорце без усялякай прычыны дапыталі турэцкія спецслужбы наконт яго палітычнай дзейнасці. Па не менш дзіўным супадзенні, праз дзесяць дзён пасля смерці Мамедава яго сябар Ібрагімаў быў дэпартаваны з Турцыі без тлумачэння прычын. Яму таксама на год забаранілі паўторны ўезд.

Так ці інакш, цяпер галоўная задача — не даць паліцэйскім чыноўнікам закрыць справу. Таму па ўсёй Еўропе азербайджанскія дысідэнты пікетуюць розныя дыпламатычныя ўстановы, заклікаючы ўрады Еўрасаюза не заставацца статыстамі ў гісторыі з Мамедавым. Акрамя таго, азербайджанцам дапамагае дэпутацкая фракцыя ад апазіцыйнай левай Дэмакратычнай народнай партыі (HDP) у турэцкім парламенце. Яе чальцы зрабілі дэпутацкі запыт з патрабаваннем апублікаваць справаздачу наконт медычнай экспертызы смерці Мамедава. Адным словам, шанец выявіць кілераў па гарачых слядах яшчэ існуе.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Мая Санду



Напярэдадні парламенцкіх выбараў 11 ліпеня прэзідэнтка Малдовы вывела сваіх прыхільнікаў на пратэст супраць рашэння ЦВК адкрыць за мяжой 139 выбарчых участкаў замест прапанаваных 190.

Гэта рашэнне вельмі важнае для праеўрапейскай партыі PAS, паколькі шмат выбаршчыкаў жывуць за мяжой. Пры гэтым неабходнасць ціску на орган тлумачыцца Санду вельмі катэгарычна: калі новы ўрад не будзе праеўрапейскім, Малдова назаўжды аддаліцца ад Захаду. На думку экспертаў, гэта кажа пра тое, што прэзідэнтка ўзняла стаўкі. Парламенцкія выбары ўнясуць яснасць у тое, куды будзе рухацца рэспубліка. Выбар зноў давядзецца рабіць паміж Усходам у асобе Расіі і Захадам, прадстаўленым ЕС і Румыніяй.

Пакуль шанцаў відавочна больш у партыі Санду. У яе самой рэйтынг вышэйшы, чым у іншых малдоўскіх палітыкаў, а значыць, за яе партыю будуць актыўна галасаваць. Праўда, пакуль абсалютна не зразумела, як збіраецца Малдова ісці ў Еўропу, дзе тэма малдоўскай еўраінтэграцыі наогул не стаіць у парадку дня.

У Кішынёве кажуць, што Малдова можа трапіць у ЕС праз аб'яднанне з Румыніяй. Першым крокам, як мяркуюць некаторыя румынскія палітыкі, можа быць сумесная дэкларацыя пра намеры ўніфікацыі, якую Кішынёў і Бухарэст прадставяць ва ўсіх еўрапейскіх канцылярыях. Аднак ці дасць Брусель згоду на перагляд межаў, — вельмі спрэчнае пытанне. Таму, хутчэй, можна казаць, што вынікі выбараў 11 ліпеня на нейкі час будуць адлюстроўваць геапалітычныя арыенціры краіны.

### Эрык Земур



Журналіст і сатырык, выхадзец з сям'і алжырскіх яўрэяў, магчыма, паспрабуе стаць «французскім Зяленскім». Многія французскія СМІ каментуюць намер Земура балатавацца ў прэзідэнты на выбарах наступнага года. Прэзідэнтам Францыі ён наўрад ці стане, аднак яго намінацыя можа радыкальна паўплываць на развязку выбарчай кампаніі.

Мяркуючы па апытаннях, Земур пачынае станавіцца сур'ёзным канкурэнтам Марын Ле Пэн, лідарkі правапапулісцкай партыі «Нацыянальны сход» (RN). Марын Ле Пэн імклівa нарошчвае свае амбіцыі, а апытанні ставяць яе рэйтынг упарэнь з Эмануэлем Макронам. Але яе рашэнне адмовіцца ад некаторых ранейшых радыкальных пазіцый робіць палітыка ўразлівай для кандыдата, які паспрабуе абыйсці яе з радыкальнага правага фланга і адабраць патрэбныя для праходу ў фінальны тур галасы. Менавіта такі імідж радыкала сфарміраваў сабе Эрык Земур.

Лексікону коміка ўласцівая вельмі непаліткарэктная мова. Не праходзіць і тыдня, каб ён не выказаўся на тэму міграцыі, сексізму, ісламу або гендарнай ідэалогіі. Яго тырады лічацца настолькі крамольнымі, што іх правяраюць перад выхадам у эфір. Каб вырашыць праблему Земура, Ле Пэн ужо звярнулася па дапамогу да свайго бацькі Жан-Мары Ле Пэна, якога сама ж з велізарным скандалам калісьці выключыла з партыі за радыкальныя выказванні. Відавочна, што за кошт таты-радыкала лідарка RN збіраецца не даць праваму электарату канчаткова перабегчы ў лагер Земура.

### Вячаслаў Валодзін



Спікер Дзяржднумы Расіі заклікаў даць ацэнку распаду СССР, які сканаў 30 гадоў таму, і назваць імёны савецкіх чыноўнікаў, якія «прадалі краіну», каб і публічна іх асудзіць.

«Так, нам неабходна даць ацэнку, чаму распаўся Савецкі Саюз. Правільна было б гэта зрабіць, не адкладаючы. Хто яго разбурыў? Прозвішчы, імёны», — заявіў Валодзін падчас пленарнага пасяджэння Дзярждумы. Ён адзначыў, што былая савецкая эліта змагла канвертаваць развал краіны ў сваю карысць. «Пакажыце сакратароў абкамаў, якія бядуюць на пенсіі», — сказаў ён, дадаўшы, што сакратары райкамаў камсамола «сталі ўладальнікамі нафтавых кампаній».

Ініцыятыву Валодзіна пакуль сур'ёзна ніхто не разглядае, паколькі, як дарэчна адзначыў адзін з каментатараў, у выпадку такога расследавання для Валодзіна і крамлёўскай эліты самым галоўным будзе — «не выйсці на саміх сябе». Як вядома, многія з праўладных палітыкаў зрабілі кар'еру якраз за кошт крытыкі СССР. Напрыклад, Уладзімір Пуцін выйшаў у людзі дзякуючы праваўдыру піцерскіх лібералаў Анатолю Сабчаку. Таму, хутчэй, заява Валодзіна — сеанс палітычнага папулізму, які будзе ўзмацняцца да восеньскіх выбараў у Думу.

З выбарамі таксама звязваюць і прыняцце ў Расіі ў апошнія дні пакета законаў аб экстрэмізме, замежных агентах і непажаданых арганізацыях, якія зрабілі ўдзел у выбарах для кандыдатаў непарламенцкай апазіцыі практычна немагчымым.

# Непераадолены досвед Вялікага Тэрору

Ігар КУЗНЯЦОЎ

**Амаль восемдзясят пяць гадоў таму, па рашэнні найвышэйшых партыйных органаў, у СССР разгарнулася чарговая крывавая «чыстка», якая доўжылася амаль два гады. У гістарычнай публіцыстыцы гэта рэпрэсіўная кампанія нярэдка называецца Вялікім Тэрорам.**



Фота НЧ

Камуністычная дыктатура заўсёды — і да, і пасля 1937 года — суправаджалася палітычнымі рэпрэсіямі. Аднак менавіта Трыццаць Сёмы стаў у памяці людзей злавесным знакам сістэмы масавых забойстваў, якія арганізоўваліся і праводзіліся дзяржаўнай уладай. На працягу 1937–1938 гадоў па палітычных абвінавачваннях у СССР было арыштавана больш за 5 мільёнаў чалавек, у тым ліку ў БССР больш за 600 тысяч.

Здзекі і забойствы насілі планавы характар. У 1920–1950 гады толькі ГУЛАГ паглынуў больш за 500 тысяч выхадцаў Беларусі. З улікам іншых катэгорый афіцыйна і неафіцыйна рэпрэсаваных, гэта лічба перавышае 1,6 мільёна. Неймаверна: найбольш здольнае да творчай і прадуктыўнай працы насельніцтва вялікага еўрапейскага горада, параўнальнага з сённяшнім Мінскам, было кінутае ў апраметнае пекла ГУЛАГа.

У многіх выпадках рэпрэсіі насілі характар генацыду беларусаў. З самага пачатку ўтварэння БССР і да 1953 года ў Беларусі была знішчана амаль уся «дарэвалюцыйная» свядомая, культурная, адукаваная інтэлігенцыя. Калі б не гэтыя страты, сёння ў нас была б зусім іншая краіна. Негатыўнае стаўленне ўладаў да нацыянальных каштоўнасцяў, на жаль, ператварылася ў тэндэнцыю, якая захоўваецца да гэтага часу.

Трыццаць Сёмы — гэта неверагодная жорсткасць прысудаў: больш за 3 мільёны расстраляных у СССР, у тым ліку больш за 250 тысяч — у БССР.

29 кастрычніка 1937 года — асабліва цяжкі і трагічны дзень у гісторыі беларускага народа. Толькі за адну ноч у Мінску сталінскія апрычнікі расстралялі 107 выбітных прадстаўнікоў творчай і навукова-тэхнічнай інтэлігенцыі. Іх жонак, дзяцей і блізкіх сваякоў кінулі ў канцэнтрацыйныя лагеры. Знішчэнне інтэлектуальнай эліты нашай нацыі было праведзена і ў абласных гарадах.

Трыццаць Сёмы — гэта беспрэцэдэнтная планавасць рэпрэсіўных «спецаперацый». Уся кампанія была загадзя старанна прадуманая вышэйшым палітычным кіраўніцтвам СССР і праходзіла пад яго пастаянным кантролем. У сакрэтных загадах НКУС вызначаліся тэрміны правядзення асобных аперацый, групы і катэгорыі насельніцтва, якія падпадалі «чыстцы», а таксама «ліміты» — планавыя лічбы арыштаў і расстрэлаў па кожным рэгіёне. Любыя змены, любыя «ініцыятывы знізу» павінны былі ўзгадняцца з Масквой і атрымліваць яе ўхвалу.

Рэпрэсіі грунтоўна закранулі, у прыватнасці, прадстаўнікоў новых беларускіх эліт — палітычнай, ваеннай, гаспадарчай. Расправа над людзьмі, імёны якіх былі вядомыя ўсёй краіне (менавіта пра іх у першую чаргу паведамлялі газеты) і ў лаяльнасці якіх не было ніякіх падстаў сумнявацца, павялічвала паніку і пагаршала масавы псіхоз. Пасля нарадзіўся нават міф пра тое, што Вялікі Тэрор быццам бы быў накіраваны выключна супраць старых бальшавікоў і партыйна-дзяржаўнага кіраўніцтва. Насамрэч, пераважная большасць арыштаваных і расстраляных — простыя савецкія грамадзяне, беспартыйныя, што ні да якіх эліт не належалі.



**Ігар Кузняцоў:**

**«Неасэнсаваная грамадствам спадчына можа стаць праклёнам будучых пакаленняў»**

Трыццаць Сёмы — гэта невядомыя раней сусветнай гісторыі маштабы фальсіфікацыі абвінавачванняў. У 1937–1938 гадах магчымасць арышту вызначалася, галоўным чынам, прыналежнасцю да якой-небудзь катэгорыі насельніцтва, паказанай у адным з «аператыўных загадаў» НКУС, ці сувязямі — службовымі, роднаснымі, сяброўскімі — з людзьмі, арыштаванымі раней. Фармуляванне індывідуальнай «віны» было клопатам следчых. Таму сотням і сотням тысяч арыштаваных прад'яўляліся фантастычныя абвінавачванні ў «контррэвалюцыйных змовах», «шпіянажы», «падрыхтоўцы да тэрарыстычных актаў», «дыверсіях» і да т.п.

Трыццаць Сёмы — гэта адраджэнне ў XX стагоддзі нормаў сярэднявечнага інквізіцыйнага працэсу, з усёй яго традыцыйнай атрыбутыкай: завочнасцю (у пераважнай большасці выпадкаў), квазісудовай працэдурай, адсутнасцю абароны, фактычным аб'яднаннем у рамках аднаго ведамства роляў следчага, абвінаваўцы, суддзі і ката. Зноў, як у часы інквізіцыі, галоўным доказам стала рытуальнае «прызнанне сваёй віны» самім падследным. Імкненне дамагчыся такога прызнання ў спалучэнні з адвольнасцю і фантастычнасцю абвінавачванняў прывялі да масавага ўжывання катаванняў; улетку 1937 года катаванні былі афіцыйна санкцыянаваныя і рэкамендаваныя як метад вядзення следства.

Трыццаць Сёмы — гэта надзвычайны і закрыты характар судаводства. Гэта таямніца, якая ахінула адпраўленне «правасуддзя», гэта непранікальная сакрэтнасць вакол расстрэльных палігонаў і месцаў пахаванняў пакараных. Гэта сістэматычная шматгадовая афіцыйная хлусня пра лёсы расстраляных: спачатку — пра міфічныя «лагеры без права перапіскі», затым — пра смерць, якая наступіла быццам бы ад хваробы, з указаннем фальшывых даты і месца смерці.

Трыццаць Сёмы — гэта кругавая парука, якой сталінскае кіраўніцтва імкнулася павязаць увесь народ. Па ўсёй краіне праходзілі сходы, на якіх людзей прымушалі гучна апладзіраваць публічнай хлусні пра выкрытых і абясшкоджаных «ворагаў народа». Дзяцей змушалі адракацца ад арыштаваных бацькоў, жонак — ад мужоў.

Гэта злавесная абрэвіятура «ЧСИР» — «чалец сям'і здрадніка Радзімы», якая сама па сабе з'явілася прысудам да зняволення ў адмысловыя лагеры для дваццаці тысяч удоў, чые мужы былі пакараныя па рашэнні Ваеннай Калегіі Вярхоўнага суда. Гэта сотні тысяч «сірот Трыццаць Сёмага» — людзей са крадзеным дзяцінствам і паламаным юнацтвам.

Гэта канчатковая дэвальвацыя каштоўнасці чалавечага жыцця і свабоды. Гэта культ чэкізму, рамантызацыя гвалту, абагаўленне ідала дзяржавы. Гэта эпоха поўнага зрушэння ў народнай свядомасці ўсіх прававых паняццяў.

Нарэшце, Трыццаць Сёмы — гэта фантастычнае спалучэнне вакханаліі тэрору з нястрымнай прапагандысцкай кампаніяй, якая ўсхваляла самую дасканалую ў свеце савецкую дэмакратыю, самую дэмакратычную ў свеце савецкую Канстытуцыю, вялікія здзяйсненні і працоўныя подзвігі савецкага народа. Менавіта ў 1937 годзе канчаткова сфарміравалася характэрная рыса савецкага грамадства — двудумства, следства раздваення рэальнасці, навязанае прапагандай грамадскай і індывідуальнай свядомасці.

І цяпер, праз столькі дзесяцігоддзяў, у стэрэатыпах грамадскага жыцця і ў дзяржаўнай палітыцы Беларусі выразна заўважаецца згубны ўплыў як самой катастрофы 1937–1938 гадоў, так і ўсёй той сістэмы дзяржаўнага гвалту, знакам і квінтэсенцыяй якога сталі гэтыя гады. Гэта катастрофа ўвайшла ў масавую і індывідуальную падсвядомасць, скалечыла псіхалогію людзей, абвастрыла застарэлыя хваробы нашага менталітэту, атрыманыя ў спадчыну яшчэ ад Расійскай імперыі, спарадзіла новыя небяспечныя комплексы.

Непераадолены досвед Вялікага Тэрору — гэта:

- адчуванне мізэрнасці чалавечага жыцця і свабоды перад балванам улады;
- звычка да «кіраванага правасуддзя», праваахоўныя органы, якія падпарадкоўваюць сваю дзейнасць не норме закона, а загадам начальства, — гэта відавочная спадчына Вялікага Тэрору;
- імітацыя дэмакратычнага працэсу пры адначасовым выхалошчванні асноўных дэмакратычных інстытуцый і адкрытым грэбаванні правамі і свабодамі чалавека, парушэнні Канстытуцыі, што здзяйсняюцца пад акампанемент клятваў у шчырай адданасці канстытуцыйнаму парадку;
- рэфлекторная непрыязнасць сённяшняга бюракратычнага апарата да незалежнай грамадскай актыўнасці, бесперапынныя спробы паставіць яе пад жорсткі дзяржаўны кантроль;
- уваскрашэнне ў сучаснай беларускай палітыцы старой канцэпцыі «варожага асяроддзя», падазронасць і варожасць да ўсяго замежнага, істэрычны пошук «ворагаў» за мяжой і «пятай калоны» ўнутры краіны;
- інтэлектуальны канфармізм, боязь усялякай «іншасці», адсутнасць звычкі да свабоднага і незалежнага мыслення, схільнасць да хлусні;
- нястрымны цынізм — адваротны бок двудумства, ваўчыная лагерная мараль («памры ты сёння, а я заўтра»), страта традыцыйных сямейных каштоўнасцяў;
- катастрафічная раз'яднанасць людзей, стаднасць, якая падмяніла калектывізм, востры дэфіцыт чалавечай салідарнасці.

Гэта неасэнсаваная грамадствам спадчына — і, такім чынам, не пераадоленая ім, — лёгка можа стаць праклёнам цяперашняга і будучых пакаленняў, якія прарываюцца вонкі то ў выглядзе дзяржаўнай маніі велічы, то ўзнаўленнем шпіёнаманіі, то рэцыдывамі рэпрэсіўнай палітыкі.

***P.S.:** Гэты артыкул быў напісаны Ігарам Кузняцовым у сакавіку 2012 года. У ім яшчэ была частка, дзе падрабязна апісвалася, што трэба зрабіць, каб не атрымаць паўтор 1937-га. Нічога з прапанаванага аўтарам за гэтыя гады зроблена не было.*

# Што футбол, што хакей: старыя песні пра галоўнае

Сяргей КАЙКО

**Тыдзень таму, распавядаючы пра гаротныя справы беларускай футбольнай зборнай, мы са стрыманай бадзёрасцю паставіліся да перспектыў панядзелкавага таварыскага матча з камандай Сьера-Леонэ. Меркавалі, што гульня ўсё ж адбудзецца, бо калі крывіць нос Еўропа, то хто яшчэ мусіць працягнуць руку дапамогі, як не афрыканскія браты? Але не: браты руку працягнулі, ды толькі нечакана склалі дулю.**



**Георгій Кандрацьеў: язык мой — вораг мой?**

Матч, які планавалі правесці ў Гродна, адмянілі. Цемнаскурыя контрагенты акуратна злілі дамоўленасці — спачатку пераставалі выходзіць на сувязь з Мінскам, а потым патлумачылі адмову празмернымі траўмамі ў гульцоў. Як вы разумееце, праўдападабенства ў такой аргументацыі не нашмат больш, чым у вядомых лістах ХАМАС аб мініраванні самалёта «Ryanair». Зрэшты, гэта і неістотна, бо «вы ж усё разумееце».

Такім чынам, з двух запланаваных спарынгаў каманда Георгія Кандрацьева правяла адзін — супраць Азербайджана. Дый той прайграла з лікам 1:2, прыкметна саступіўшы суперніку як па якасці футбола, так і па асноўных паказчыках актыўнасці на полі.

Наступныя гульні — ужо ў верасні, у працяг кваліфікацыі чэмпіянату свету. У сённяшнім вымярэнні гэта такі няблізкі свет, што аб нечым загадваць зусім не выпадае. Што будзе з паветранай прасторай і пералётамі ў Еўропе? Што будзе з палітыкай і эканомікай у Беларусі? Што будзе са шматпакутным беларускім футболам? І ці не галоўнае — што будзе з яго інтэграванасцю ў футбол міжнародны, бо ізаляцыйныя працэсы відавочна набываюць моц?

Цяпер гэтыя пытанні не маюць адказу. Гэта як разважаць, што будзе з біткоінам. Таго не ведае нават Ілан Маск, таму застаецца адно — чакаць. Хаця, як кажа Лявон Вольскі, чаканне дастала.

І толькі пра адно, як падаецца, цяпер можна гаварыць з пэўнасцю — зборнай Беларусі ўсё-ткі патрэбны новы галоўны трэнер.

### Хто замест Кандрацьева?

У чэрвеньскіх доследах Георгій Кандрацьеў быў адначасова і суб'ектам і аб'ектам. З аднаго боку, ён сабраў каманду на «таварнякі», каб ацаніць кандыдаты футбалістаў. З другога, ацэньвалі яго самога, на што ўказвала функцыянальная прыстаўка трэнера — «выконваючы абавязкі».

Як Георгій Пятровіч іх выканаў, бачна з лічбаў на табло. Параза ёсць параза, хай нават склад каманды не быў мацнейшым, а другі матч наогул не адбыўся. Важкіх прычын, каб зацвердзіць Кандрацьева галоўным, афіцыйна неяк не дадалося. І паколькі іншай магчымасці пераканаць працадаўцу не прадбачыцца, то выснова можа быць толькі адна. Паводле Кіплінга: зграі патрэбен новы важак.

Зрэшты, ёсць адчуванне, што застацца ў зборнай Кандрацьеў асабліва і не разлічваў. Прынамсі, на прэс-канферэнцыі перад гульнёй з азербайджанцамі ён паводзіў сябе даволі дзіўна з гледзішча педагогікі — і зусім не так, як чалавек, які трымаецца за сваё месца. Згадваючы эпічныя 0:8 у Бельгіі, трэнер з'едліва прайшоўся па футбалістах і ані словам не абмовіўся пра памылкі штаба, у якім на той момант працаваў асістэнтам.

«Мы вёска на вёску з большым азартам гулялі, чым асобныя футбалісты на полі», — сфармуляваў Кандрацьеў, трэба разумець, галоўную прычыну сакавіцкага правалу ў Лёвене. І дадаў пра тое, што быў шакаваны дзеяннямі асобных гульцоў у тым матчы, іх самааддачай і адносінамі да справы.

Як такая рыторыка ўздзейнічае на спартсменаў і якія адносіны ў калектыве фарміруе — казаць залішне. Тым больш, пасля той бельгійскай ганьбы каманда — вуснамі паўабаронцы Івана Маеўскага — транслявала «сустрэчны пазоў» да сваіх трэнераў: «Гэта наш узровень і вынік адсутнасці плана на гульню. Напэўна, усё-ткі трэба план мець, калі гуляеш з такімі камандамі. А не проста выходзіць на поле».

Цікава, як успрыняў той жа Маеўскі (і іншыя вопытныя гульцы, якіх не паклікалі на чэрвеньскі спарынг) гучныя трэнерскія эскапады пра футбол «вёска на вёску»? А як іх успрынялі федэрацыя і Міністэрства спорту? У адным флаконе з паразай ад азербайджанцаў такое стаўленне да каманды адназначна ўзбуджае думкі аб новым трэнеры. І ён, магчыма, у зборнай будзе. Галоўным кандыдатам, дарэчы, застаецца Вадзім Скрыпчанка, аб чым «НЧ» распавядаў раней.

### Глядзі пункт першы

Апошнім часам цікавыя камунікацыйныя практыкі нанова прыжываюцца ў беларускім спорце. Бо Георгій Кандрацьеў — не першы і не адзіны з трэнераў, хто ў ацэнках не шкадуе крытычных эпітэтаў на адрас гульцоў, хто падкрэслена адгароджваецца ад каманды і падзяляе адказнасць.

Самы свежы прыклад нядоечы рэгулярна прылятаў да нас з Латвіі, дзе на хакейным чэмпіянаце свету гамерычна зняславілася зборная Беларусі. Яе тагачасны (чаму тагачасны — чытайце ў артыкуле ніжэй) кіраўнік Міхаіл Захараў, тлумачачы чарговую няўдачу, ад разу ў раз няўрымсліва паласкаў сваіх хакеістаў. І не на тым узроўні яны гуляюць у клубах, і кепска рыхтаваліся да складанага турніру, і такія яны, і сякія яны... «Мужыкі, вы чаго? — казаў той, хто нібыта збіраўся вяртацца з Рыгі з медалямі. — У нас шэсць чалавек з чэмпіянату Беларусі. З імі фурор наводзіць на чэмпіянаце свету?!»

Самы ж, бадай, знакаміты «наезд» на ЧС Захараў дазволіў сабе на адрас Ніка Бэйлена — амерыканскага абаронцы з беларускім пашпартам. «Пяць галоў нам сёння прывёз!» — сказаў трэнер пасля гульні з Вялікабрытаніяй, у якой каманда прапусціла... чатыры разы.

Тут, канешне, варта абагульніць — і сказаць, што іерархічныя стасункі ў беларускім спорце сёння вельмі нагадваюць стасункі ў дзяржаўнай сістэме. Там, дзе ўкаранёныя падыходы, як з таго анекдота: «Пункт першы: начальнік заўсёды мае рацыю. Пункт другі: калі начальнік памыляецца, то глядзі пункт першы».

Тут, канешне, варта і чарговы раз нагадаць пра ўнікальную ўласцівасць спорту — ён цудоўна і беспамылкова адлюстроўвае навакольнае жыццё. А ў жыцці тым, калі яно цывілізаванае, даўно ўжо не кіруюць з дапамогай маршальскага жазла, бо тое атавізм і перажытак.

Футбольны трэнер Пеп Гвардыёла таму і лічыцца вялікім, што разбіраецца ў гэтых тонкіх матэрыях. Яго фенаменальны «Манчэстэр Сіці» нясцерпна крыўдна прайграў нядаўні фінал Лігі чэмпіёнаў, але яго футбалісты за гэта не пачулі ад свайго камандзіра аніводнага дрэннага слова. Наадварот: «Хлопцы рабілі ўсё магчымае, аддалі ўсе сілы. Хачу павіншаваць іх з выбітным сезонам і з той гульнёй, якую яны сёння паказалі», — сказаў славуты каталонец, які выйграў 31 трафей у Іспаніі, Германіі і Англіі.

Ён і працягне перамагаць — у тым ліку таму, што крочыць у нагу з часам. Пра беларускі футбол і беларускі хакей такога, на жаль, сёння сказаць нельга.

## Захарава звольнілі

Сяргей КАЙКО

**Хакейная зборная Беларусі вярнулася з чэмпіянату свету на аўтобусе, але замест медалёў прывезла ўсяго толькі 15-е, перадапошняе, агульнае месца (горш згулялі ў іншай групе толькі італьянцы).**

У іншыя часы гэта азначала б аглушальны вылет з элітнага ў першы дывізіён — так званы «пердыв», адкуль яшчэ паспрабуй выкараскайся. Аднак дзякуй пандэміі — праз яе ІІХФ скасавала ратацыю паміж лігамі.

Зрэшты, галоўнага трэнера гэта не ўберагло — Міхаіла Захарава звольнілі.

Гэта адбылося ў панядзелак на адмысловым пасяджэнні выканкама Беларускай хакейнай федэрацыі. Паслухаўшы справаздачу «кульгавай качкі», чальцы камітэту адразу ж прынялі і заяву аб сыходзе паводле ўласнага жадання. Так скончыўся трэці заход у галоўную каманду трэнера Захарава — і зноў няўдалы. Так званы чарговы раз аказалася на ростанях — з сумнай сучаснасцю, цьмянай будучыняй і блізкім новым «часам ікс». У жніўні трэба гуляць алімпійскую кваліфікацыю, чапляцца за шанец патрапіць на Гульні–2022. Фаварытамі гэтага адбору беларусаў, мякка кажучы, мала хто лічыць.

Каб два разы не ўставаць, выканкам ФХБ адразу ж вызначыўся і з захараўскім пераемнікам. Ім стаў Крэйг Вудкрафт — 51-гадовы канадзец, які зараз трэніруе заадно і мінскае «Дынама». «Зубры» больш-менш няблага правялі мінулы сезон у Кантынентальнай хакейнай лізе, дзе прабіліся ў плэй-оф, таму логіку федэрацыі зразумець можна. Навошта шукаць годнага кандыдата, калі ён навідавоку і сам ідзе насустрач?

Дый і фінансавае пытанне, здаецца, ФХБ адчувальна падціскае, нездарма ў прэзентацыйнай рыторыцы кіраўнік федэрацыі Баскаў падкрэсліў, што канадскі спецыяліст са сваімі дынамаўскімі памочнікамі гатовыя працаваць нават без зарплаты.

То ўсё добра? Сямімільнымі крокамі наш хакей цяпер рушыць наперад? Вядома, не. Ужо хаця б таму, што практыка трэнерскага сумяшчальніцтва — сумнеўная рэч у любым відзе спорту. А летам Вудкрафт мусіць адначасова займацца падрыхтоўкай адразу дзвюх каманд: зборную весці да гульняў за Алімпіяду, «Дынама» — да сезону ў КХЛ. Балівару надзвычай цяжка будзе вынесці дваіх.

Падрабязней тэму кадравых пертурбацый у хакеі «НЧ» яшчэ закране — у бліжэйшым спартыўным дадатку (18 чэрвеня). А сёння на заканчэнне проста паведамім для тых, хто не ў тэме: чэмпіёнамі свету ў Рызе сталі канадцы — тыя самыя, што пачалі турнір з трох запар паразаў.

# ДЗЕНЬ НАРАДЗІНАЎ ЗА КРАТАМІ

**Павіншуйце палітвязняў паштоўкай ці тэлеграмай або адпраўце грашовы перавод да свята. А яшчэ ў вас ёсць магчымасць даслаць віншаванне ў рэдакцыю, а мы яго надрукуем. Працягваем знаёміць з тымі, у каго дзень нарадзінаў у чэрвені.**

## 14 чэрвеня

32-годдзе за кратамі сустрэне **Павел Андрэевіч Пяскоў** — жыхар Маладзечна, да затры-



мання даглядаў сваю хворую бабулю.

Супраць Паўла распачалі крымінальную справу па ч. 2 арт. 363 КК. Да суда ён знаходзіўся на волі пад падпіскай аб нявыездзе. Разам з Паўлам па справе праходзіў Уладзіслаў Еўсігнееў.

29 верасня 2020 года суд Маладзечанскага раёна вынес прысуд Паўлу Пяскову і пакараў яго 3 гадамі і 3 месяцамі пазбаўлення волі. Уладзіслаў Еўсігнееў атрымаў на 3 месяцы меней.

20 лістапада ў Мінскім абласным судзе адбыўся разгляд апеляцыйных скаргаў адвакатаў Пяскова і Еўсігнеева, а таксама пратэст пракурора Сяргея Габруковіча. Судовая калегія Мінаблсуда пакінула ў сіле прысуд Маладзечанскага суда, а скаргі і пратэст — адхіліла.

Адрас для лістоў: ПК №2. 213800, г. Бабруйск, вул. Сікорскага, 1.

48-годдзе сустрэне за кратамі **Сяргей Рамуальдавіч Плоніс**. Працаваў сістэмным



адміністратарам у сферы лакальных сетак, відэаназірання. Мае вышэйшую адукацыю. У яго ёсць два сабакі, з якімі ён удзельнічаў у дабрачынных акцыях з паказальнымі выступамі.

Сяргей Плоніс затрыманы 2 кастрычніка ў Мінску ў межах крымінальнай справы аб удзеле ў масавых беспарадках (ч. 2 арт. 293 КК).

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

23-годдзе сустрэне за кратамі **Арцём Ігаравіч Касакоўскі** — оптык на заводзе «Оптык» у Лідзе. Нарадзіўся ў 1998 годзе.



Скончыў фізіка-матэматычны ліцэй у Гродне, Лідскі політэхнічны каледж па спецыяльнасці «Оптык». Затрыманы 27 верасня ў Мінску. «Ён усюды зарэкамендаваў сябе добра, — распавядае мама Арцёма Святлана Мікалаеўна. — У Лідскім каледжы быў праформарг, вучыўся на павышаную стыпендыю. На заводзе яго хацелі зрабіць майстрам або тэхнолагам. Цяпер, каб падтрымаць мяне, тэлефануюць і былыя аднакласнікі і аднагрупнікі, і цяперашнія калегі Арцёма: просяць звяртацца, калі патрэбна дапамога. Мы з сынам вельмі ўдзячныя ўсім за такую салідарнасць».

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

27-годдзе за кратамі сустрэне **Рыгор Анушаванавіч Давыдаў** — былы супрацоўнік МНС, які звольніўся ў 2019 годзе.



Рыгора абвінавацілі ва ўдзеле ў масавых беспарадках (ч. 2 арт. 293 КК).

25 лютага суд Фрунзенскага раёна асудзіў Рыгора Давыдава да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Адрас для лістоў: Следчая турма №8. 222163, г. Жодзіна, вул. Савецкая, 22А.

## 15 чэрвеня

39 гадоў споўніцца **Сяргею Ярашэвічу** — аднаму з адміністратараў тэлеграм-канала



«Армія з народам», мужу палітзняволенай Антаніны Канавалавай.

Затрыманы 2 кастрычніка ў межах крымінальнай справы (арт. 342 КК РБ). Яму прад'яўлена абвінавачанне.

7 траўня ў Мінскім абласным судзе вынесены прысуды фігурантам справы па тэлеграм-канале «Армія з народам». Сяргей Ярашэвіч асуджаны да пяці з паловай гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Адрас для лістоў: СІЗА-6. 225413, г. Баранавічы, вул. Брэсцкая, 258 В.

33-годдзе за кратамі сустрэне **Яўген Курганаў** — жыхар Мінска. Быў затрыманы ў межах



справы па масавых беспарадках, дома правялі вобшук.

Было прад'яўлена абвінавачанне па ч. 2 арт. 293 КК РБ. Затым справу перакваліфікавалі на арт. 342 КК.

23 сакавіка суд Заводскага раёна горада Мінска вынес прысуд палітвязню: два гады пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму. Яўген — чалавек з інваліднасцю трэцяй групы.

Адрас для лістоў: Турма №4. 212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99А.

**Аляксандр Сяргеевіч Раентаў** таксама сустрэне дзень нарадзінаў за кратамі. Першы раз быў жорстка затрыманы 29 жніўня ў тралейбусе разам са сваёй сястрой Наталляй. Відэа затрымання разляцелася па



СМІ і сацыяльных сетках. Тады Аляксандр атрымаў арышт, на яго сястру была заведзеная крымінальная справа.

Па крымінальнай справе ён быў затрыманы ў пачатку снежня. Прад'яўлена абвінавачанне па арт. 342 КК. На судзе стала вядома, што Аляксандра таксама вінавацяць па арт. 363.

17 траўня ў судзе Фрунзенскага раёна Мінска быў вынесены прысуд па крымінальнай справе Аляксандра Раентава. Яго пакаралі 5 гадамі калоніі.

Адрас для лістоў: СІЗА-6. 225413, г. Баранавічы, вул. Брэсцкая, 258 В.

## 17 чэрвеня

Сустрэне дзень нарадзінаў за кратамі **Ігар Аляксандравіч Рудчык**. Быў затрыманы раніцай 2 снежня ў кватэры, дзе жыве.



Ён праходзіць па крымінальнай справе аб масавых беспарадках, распачатай па падзеях жніўня.

Было прад'яўлена абвінавачанне па ч. 2 арт. 293 КК РБ. Асудзілі да чатырох гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Адрас для лістоў: Турма №4. 212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99А.

## 18 чэрвеня

32-годдзе сустрэне за кратамі **Уладзімір Сяргеевіч Колас**. Асуджаны на 1 год і 6 месяцаў абмежавання волі з накіраван-



нем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу за абразу кіраўніка дзяржавы (арт. 368 КК).

3 красавіка Коласа затрымалі, змясцілі ў ІЧУ, а затым этапавалі да месца адбыцця пакарання. З 14 красавіка знаходзіцца ў папраўчай установе.

Адрас для лістоў: Выпраўленчая ўстанова адкрытага тыпу №46. 213188, г.п. Круглае, вул. Савецкая, 96.

20-годдзе за кратамі сустрэне **Арцём Юр'евіч Баярскі** — ужо экс-студэнт хімфака БДУ.

У першы раз Арцёма затрымалі 16 лістапада 2020 года пасля Маршу сталых людзей. Але затрымлівалі яго, калі вяртаўся ў інтэрнат: на выхадзе з метро яго чакаў бус з людзьмі ў чорным. Маладога чалавека зацягнулі ў машыну і збівалі. 24 сакавіка, у дні шматлікіх прэвентыўных затрыманняў перад Днём Волі, па Арцёма прыйшлі зноў: гэтым разам а 6.30 раніцы ў інтэрнат. Хлопцаў паклалі на падлогу, але забралі толькі Арцёма. Нібыта, на 11 паверсе заўважылі сцяг.

Арцём павінен быў выйсці на свабоду 18 красавіка. Але 16 красавіка бацькам патэлефанавала следчая і сказала, што Арцём затрыманы як падазраваны паводле арт. 361-1 ч.1 КК.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

Свой дзень нарадзінаў за кратамі сустрэне і **Акіхіра Гаеўскі-Ханада** — актывіст анархісцкага руху, сын супрацоўніцы японскага пасольства і беларуса. Скончыў мінскую гімна-



зію №19. Лаўрэат спецыяльнага фонду па падтрымцы адораных навучэнцаў і студэнтаў. Вучыўся ў БДУ, але затым паступіў у ЕГУ.

Яго бацька — беларус Святаслаў Гаеўскі, трэнер па каратэ, родам са Слуцка. Мама — Тамока Ханада, працавала сакратаром па культуры японскай амбасады ў Беларусі.

Быў затрыманы 12 жніўня каля 13 гадзін на аўтамабільнай паркоўцы.

Яму прад'яўленае абвінавачанне па ч. 2 арт. 293 КК. 28 студзеня стала вядома, што супраць яго, а таксама супраць палітвязняў Аляксандра Францкевіч, Андрэя Чапюка і яшчэ некалькіх чалавек узбуджана крымінальная справа па ч. 2 арт. 285 КК — «Удзел у злачыннай арганізацыі ў любой іншай форме».

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

## 19 чэрвеня

Дзень нарадзінаў за кратамі сустрэне **Антаніна Сяргееўна Канавалава** — даверaная асоба Святланы Ціханоўскай.

Яна была затрыманая 6 верасня і асуджаная ў адміністрацыйным парадку на 40 базавых велічынь штрафу за ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве. Аднак пасля суда жанчыну



не адпусцілі, а паразатрымалі ў межах крымінальнай справы.

7 траўня ў Мінскім абласным судзе вынесены прысуды фігурантам справы па тэлеграм-канале «Армія з народам». Антаніна Канавалава асуджаная да пяці з паловай гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №975

Падпісана да друку 10.06.2021. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.